

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 4 (4753) 24 студзеня 2014 г.




## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі сустрэўся з кіраўнікамі беларускіх СМІ і адказаў на актуальныя пытанні, якія хвалююць грамадскасць. На сустрэчу былі запрошаны кіраўнікі дзяржаўных і недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Галоўным крытэрыем быў уплыў і аўтарытэт таго ці іншага СМІ ў грамадстве. «Я гатовы да гутаркі. Форму гэтай размовы не будзем вызначаць, будзем лічыць, што ў нас сёння адбудзецца дыялог», — прапанаваў Аляксандр Лукашэнка. Размова працягвалася больш як пяць гадзін.

✔ Адно з ключавых пытанняў развіцця краіны — мадэрнізацыя. «Калі мы амбіцыйна заяўляем, што мы, беларусы, хочам быць суверэннымі і незалежнымі і не будзем займацца мадэрнізацыяй свайго жыцця і вытворчасці, то мы ніколі такімі не будзем. Немагчыма сёння жыць і не развівацца», — адзначыў Прэзідэнт.

✔ Аб правядзенні ў Беларусі дэнамінацыі будзе аб'яўлена за паўгода, аднак пакуль для гэтага няма ўмоў, заявіў Аляксандр Лукашэнка. «Мы падумаем са спецыялістамі, калі гэты перыяд настане. Тут трэба быць вельмі асцярожнымі, — лічыць Кіраўнік дзяржавы. — Мы гатовы ў любы момант правесці дэнамінацыю. Але ўсё ж нават для гэтага тэхнічнага кроку павінны быць пэўныя ўмовы».

✔ Праблему беларускай мовы Прэзідэнт Беларусі лічыць палітызаванай. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ў дзяржаве створаны ўсе ўмовы для тых, хто жадае яе вывучаць. «Я абсалютна не супраць беларускай мовы, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Я нават больш, чым вы, хачу, каб нашы людзі свабодна размаўлялі па-беларуску. Адзінае, чаго я не прымаю, — гэта ціск. Як толькі пачынаеш ціснуць — адваротная рэакцыя». «Беларуская мова — не для рэвалюцыі», — дадаў Прэзідэнт.

✔ Што датычыцца заўвагі пра тое, што ў краіне выдаецца мала кніг па-беларуску, то Прэзідэнт нагадаў, што раней прапаноўваў беларускім аўтарам напісаць хаця б адзін варты твор, аднак гэтага не здарылася. «Я казаў: пакладзіце мне хаця б адну, напрыклад, «Вайну і мір», і я забяспечу вам гіганцкую падтрымку. Няма іх!» — рэзюмаваў Прэзідэнт.

✔ Аляксандр Лукашэнка даручыў вывучыць неабходнасць змен парадку распаўсюджвання друкаванай перыёдыкі ў краіне. У прыватнасці, Прэзідэнт звярнуў увагу на канкурэнцыю друкаваных выданняў з інтэрнэт-рэсурсамі, якія могуць больш аператыўна рэагаваць на тыя ці іншыя падзеі. Друкаваныя выданні, напрыклад, не могуць выходзіць па панядзелках і адпаведна інфармаваць чытачоў пра падзеі, што адбыліся на выхадных.

✔ Хакейны чэмпіянат адкрые свету Беларусь. Наша краіна правядзе яго на годным узроўні, упэўнены Аляксандр Лукашэнка. Паводле Кіраўніка дзяржавы, усе аб'екты вытрымалі выпрабаванне, будзе ў Мінску і дастатковы гасцінічны фонд. Кажучы пра Год гасціннасці, Аляксандр Лукашэнка заўважыў, што хакейны момант у ім — спадарожны: «У першую чаргу я меў на ўвазе душу беларусаў. Яны заўсёды гасцінныя, імкнуцца ўсім дагадзіць, накарміць, апошнюю кашулю аддаць, яны вельмі добрыя».

Васіль Шарангові. Любімая ілюстрацыя мастака да паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», 1985 — 1998. Акварэль.

Чытайце на стар. 16 ▶

***

*Тут Войскі падхапіў, тасьмой прымацаваны,*
*Буйволлі доўгі рог, круты пакарбаваны,*
*Як боа-вуж, паднёс да губ, аберуч сціснуў,*
*Як буталь, твар надзьмуў, крывавым вокам бліснуў,*
*Павекі прычыніў, сцягнуў углыб паўбруха,*
*У лёгкія паслаў усе запасы духу*
*І граць пачаў. Рог, быццам віхру на пацеху,*
*Панёс па пушчы голас, паўтараны ў рэху.*
*Стральцы замоўклі, сталі гоншчыкі ў здзіўленні,*
*Пачуўшы гукаў моц, іх чыстыя адценні.*
*Стары, што славіўся даўней сваім мастацтвам,*
*Рашыў з ім зноўку паляўнічым паказацца.*
*Жыццём уміг напоўніў нетры і дубровы,*
*Нібы спусціў сабак і распачаў уловы;*
*Ігрой ён ход аблавы пераказваў хутка:*
*Спачатку рэзкі, звонкі зык трубы — пабудка,*
*Пасля за енкам енкі — брэх сабачы смелы,*
*А месцам цвёрды тон, як гром, — няйначай, стрэлы.*

**З паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (пераклад П. Бітэля)**

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# На мажорнай ноце

Чарговы рабочы сход, які сабраў сяброў Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, стаўся не зусім звычайным. Распачаўся ён выступленнем ансамбля «Мінскі гармонік» пад кіраўніцтвам кампазітара Івана Раманчука. Гэты калектыў задаў пазітыўны тон усяму мерапрыемству.

На пачатку сходу традыцыйна быў абраны рабочы прэзідыум у складзе старшыні СПБ Мікалая Чаргінца, старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова, паэтэсы Аліны Легастаевай і галоўнага спецыяліста Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама Марыі Ясюк. Шэрагу майстроў слова былі ўручаны ўзнагароды за плённую працу на ніве прыгожага пісьменства. Так, Ганна Раднова ўдастоена Ганаровай граматы СПБ. Медалямі «За вялікі ўклад у літаратуру» ўганараваны Алесь Бадак, Ніна Галіноўская, Анатоль Зэкаў, Анатоль Казлоў, Уладзімір Мазго, Алена Папова, Павел Саковіч, Уладзімір Саламаха, Уладзімір Скарынкін, Іван Стадольнік, Сяргей Трахімёнак, Ганад Чарказян, Віктар Шніп. Малады дзіцячы пісьменнік Дзмітрый Саўчык атрымаў членскі білет СПБ.

Першым пытаннем парадку дня стала падвядзенне вынікаў працы за мінулы год. М. Пазнякоў у сваім выступленні падкрэсліў, што сёння Мінскае гарадское аддзяленне СПБ налічвае 286 чалавек. За 2013 г. яго папоўнілі 12 новых членаў. У дзяржаўных і недзяржаўных выдавецтвах краіны пабачыла свет 126 кніг сяброў аддзялення. Міхась Паўлавіч асабліва адзначыў выпушчаныя пры падтрымцы выдавецтва «Чатыры чвэрці» кнігі серый «Мінскія маладыя галасы» і «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі», а таксама зборнік «Рукопожатие над Босфором», прэзентаваны ў мінулым годзе ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна (кніга ўключае творы прадстаўнікоў беларускай пісьменніцкай дэлегацыі, якая ў 2012-м наведала Турцыю).

Цягам года пісьменнікі аддзялення правялі агульнай колькасцю больш як 1500 мерапрыемстваў. У іх ліку сустрэчы з чытачамі, канферэнцыі, «круглыя сталы», творчыя ўрокі беларускай і рускай мовы і літаратуры, а таксама шэраг іншых цікавых форм працы. Напрыканцы мінулага года 25 найбольш актыўных сталічных літаратараў атрымалі дадатковыя ганарары, агульная сума якіх склала 8 млн. рублёў.

Вялікую падзяку Міхась Паўлавіч выказаў супрацоўнікам бібліятэк, якія аказваюць неацэнную дапамогу ў наладжванні пісьменніцка-чытацкіх стасункаў.

Што датычыць працы з пачаткоўцамі, то да друку рэкамендаваны творы 32 юных літаратараў. У сталіцы створаны шэраг студый, дзе прафесійныя пісьменнікі актыўна спрыяюць рэалізацыі таленавітых хлопчыкаў і дзяўчынак, і літаратурны клуб «Масты дружбы». А 6 маладых сяброў Мінскага гарадскога аддзялення СПБ — Алена Бабурэвіч, Людміла Клачко, Маргарыта Латышкевіч, Валерыя Саротнік, Дзмітрый Саўчык, Ганна Чумакова — з пачатку бягучага года атрымліваюць стыпендыі СПБ. Сярод творцаў перыядычна праводзяцца разнастайныя літаратурныя конкурсы.

М. Пазнякоў нагадаў і пра тое, што ў пачатку снежня кожны член Мінскага гарадскога аддзялення СПБ павінен прадаставіць у арганізацыю пісьмовую справаздачу аб колькасці сустрэч з чытачамі, артыкулах у перыядычным друку, выдадзеных кнігах, а таксама 1 асобнік новай кнігі. Абавязковай з'яўляецца і выплата членскіх узносаў (1 раз на год), ад якой вызвалены ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны і інваліды I групы.

Гаворачы пра план работы аддзялення на гэты год, Міхась Паўлавіч параіў сталічным пісьменнікам больш актыўна ўдзельнічаць у агульнагарадскіх і рэспубліканскіх святах, паэтычных чытаннях, адзначыўшы, што найбольш актыўныя ўдзельнікі чарговай Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, якія ўваходзяць у склад СПБ, будуць узнагароджаны грашовымі прэміямі. Таксама плануюцца юбілейныя вечарыны і вечары памяці творцаў, прэзентацыі новых кніг. Заснавана новая прэмія «Адкрыццё года» (для найбольш яркіх творцаў да 30 год, якія могуць не з'яўляцца членамі СПБ).

Паводле старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца, мы ідзём па шляху паступовага нарошчвання магчымасцей і сіл. Выдаюцца кнігі, створаны тэлеканал «Беларусь 3», дзе слова прадастаўляецца і літаратарам. Наладжана праца Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду.

Мікалай Іванавіч упэўнены, што ў склад СПБ павінны ўваходзіць і замежныя творцы, якія прапагандуюць беларускую кнігу і беларускае слова ў тых краінах, дзе жывуць. Прыкладам, у Лос-Анджэлесе жыве сябар СПБ Іна Саніна, якая піша артыкулы пра дзейнасць сучасных беларускіх пісьменнікаў.

— А айчынныя творцы, — падкрэсліў М. Чаргінец, — павінны актыўна рэкламаваць свае кнігі, часцей выступаць перад публікай і шукаць новыя спосабы зацікавіць чытача беларускай кнігай.

Пісьменніцкі сход завяршыўся канцэртам, арганізаваным Беларускім рэспубліканскім літаратурным фондам.

**Дана ХОДНІЧ**

*За падзеяй*

# Традыцыі — сямнаццаць гадоў

Не заўсёды ў нас трымаюць у памяці імёны пісьменнікаў, якія пайшлі з жыцця. А вось у Мар'інай Горцы, Пухавіцкім раёне ёсць энтузіясты, якія памятаюць народнага пісьменніка Беларусі Івана Гаўрылавіча Чыгрынава. Штогод напрыканцы снежня разам збіраюцца людзі, якія добра ведалі таленавітага празаіка, летапісца ваеннага лёсу Беларусі.



— Сямнаццаты раз запар прайшлі ў нас Чыгрынаўскія чытанні, — расказвае дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Пpановіч. — Іх удзельнікі наведаліся ў школу № 2 горада Мар'іна Горка.

Гэтым разам перад вучнямі, настаўнікамі выступілі жонка пісьменніка — Людміла Прохараўна Чыгрынава і паэт Леанід Дранько-Майсюк. Таксама сустрэча адбылася і ў Пухавіцкай раённай бібліятэцы.

Яркая, шматаблічная асоба аўтара раманаў «Апраўданне крыві», «Плач перапёлкі», іншых твораў пра Вялікую Айчынную вайну і сёння прыцягвае ўвагу чытача.

У свой час празаік марыў пабудаваць леціпшча на Пухавіччыне, у вёсцы Блужа. На жаль, не паспеў гэты клопат здзейсніць. Але засталася добрая памяць пра раманіста сярод жыхароў гэтай прыгожай старонкі.

У раённым музеі значнае месца ў экспазіцыі «Літаратурная Пухавіччына» прысвечана Івану Чыгрынаву.

**Сяргей ПАЎЛАЎ**

# Сталіца: від з кнігарні

Прэзентацыя кнігі Віктара Корбута «Минск. Лучший вид на этот город» (РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»), што адбылася ў сталічным «Кніжным салоне», ператварылася ў адмысловы міні-экскурс па гісторыі Мінска — ад заснавання да нашых дзён.

Пасля кароткага ўступу дырэктар кнігарні Ала Зміёва перадала слова аўтару кнігі. Дарэчы, Віктар — асоба неардынарная. Выпускнік БДУКіМ (спецыяльнасць — «Музейная справа і ахова помнікаў гісторыі і культуры»), член Беларускага саюза журналістаў, спецыяльны карэспандэнт газеты «Советская Белоруссия» (да таго ж супрацоўнічае і з іншымі перыядычнымі выданнямі), лаўрэат рэспубліканскіх конкурсаў.

Пяру В. Корбута належаць больш як дзве тысячы публікацый, прысвечаных мінуламу Беларусі, у айчынных, літоўскіх і расійскіх выданнях. Што ж да прэзентаванай кнігі, то яе склалі артыкулы аўтара, якія раней публікаваліся на старонках «Советской Белоруссии».

Прысутнічалі на імпрэзе і героі выдання: мастак Анатоль Наліваеў і старшыня грамадскай назіральнай камісіі пры Міністэрстве культуры па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, пісьменнік Анатоль Бутэвіч. Апошні адзначыў, што ў наш час вельмі востраі праблемай з'яўляецца будучыня старых сталічных вуліц (напрыклад, сучасная Няміга карэнным чынам адрозніваецца ад Нямігі гістарычнай).

А. Наліваеў, выпускнік мастацкай студыі Сяргея Каткова і вышэйшых рэстаўрацыйных курсаў у Празе, стварыў больш як 100 акварэльных замалёвак, што ўяўляюць сабой цэласную панараму цэнтральнай часткі Мінска 1940 — 1960-х гг. Менавіта яны і паслужылі В. Корбуту каштоўнымі гістарычнымі дакументамі падчас напісання кнігі.

Для мастачкі Алены Ждануўскай, дызайнера выдання, тэма Мінска таксама блізкая. Яна прызналася, што, малюючы, пакінула гораду часцінку сваёй душы. Дарэчы, палотны А. Наліваева і А. Ждануўскай экспанаваліся ў кнігарні падчас прэзентацыі.

Завітаў у «Кніжны салон» і слынны літаратуразнаўца, крытык, празаік, перакладчык, уладальнік ордэна Францыска Скарыны Адам Мальдзіс, які жыве ў Мінску з 1951 года. Разглядваючы перад прысутнымі карціну тагачаснага стану горада, ён зазначыў, што нецікавых мясцін на зямлі няма. А згадаўшы пра шматгадовую публікацыю ў часопісе «Маладосць» маштабнага краязнаўчага даведніка «Літаратурныя мясціны Беларусі», Адам Восіпавіч перадаў Віктару для складання даведніка па Мінску вялізны стос дакументальных картак, прысвечаных вядомым людзям, якія ў розныя гістарычныя эпохі жылі ў нашай сталіцы.



Фота Андрэя Барашкі

Віктар Корбут з карцінай Анатоля Наліваева.

Сам Віктар называе сябе прыхільнікам канстатацыі фактаў. І нездарма: у яго кнізе — мноства фотаздымкаў, як старых, так і сённяшніх. Сабраную інфармацыю малады даследчык імкнуўся падаць так, каб яго пачулі людзі, ад якіх залежыць працэс захавання аўтэнтычнай мінскай архітэктуры.

Цешыць, што аўтар кнігі «Минск. Лучший вид на этот город» не спыняецца на дасягнутым. У яго творчых планах — шэраг краязнаўчых праектаў.

**Яна ЯВІЧ**

*Тэле-ЛіМ*

# Глядзіце пра...

Праект «Дыя@блог» на тэлеканале «Беларусь 3» прапануе сваім прыхільнікам чарговую серыю цікавых гутарак з выбітнымі асобамі.

Распачне тыдзень 27 студзеня Навум Гальпяровіч — у 10.20 і 21.40. У гаворцы з Мікалаем Жуковічам, дырэктарам сярэдняй школы № 1 г. Бярозы, вядучы высвеціць, як сённяшнія вучні ставяцца да ўрокаў роднай мовы і якім чынам можна зацікавіць іх яшчэ больш. Госць праграмы падзеліцца ўласнымі методыкамі вывучэння беларускай мовы, якія, магчыма, пойдуць на карысць не толькі школьнікам.

Пра тое, як можна спалучыць спорт і навуку, паэзію і прозу, раскажа Таццяне Сівец і Стэле Чырковай пісьменнік Уладзімір Васіленка. Чаму творца вырашыў напісаць ліст самому Бродскаму і які адказ атрымаў? Даведаецеся ў аўторак з чарговага «Дыя@блогу. Пра літаратуру» — у 10.20 і 21.35.

Тым самым часам у сераду «пра прыгожае», то бок пра творчую дзейнасць ансамбля «Камерата», распавядзе вядучаму Сяргею Макарэю кампазітар, аранжыроўшчык, удзельніца гэтага вакальнага гурта Вольга Вараб'ёва.

А «пра вечнае» пагавораць 30 студзеня ў 21.35 вядучы Аляксандр Цярэшчанка, старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат філасофскіх навук Аляксандр Куіш і прэс-сакратар Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Беларусі ксёндз Юры Санько. Тэма іх гаворкі — «Смерць пасля жыцця».

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

*Стасункі*

# Убачыць Данелайціса

Дзяржаўны літаратурны музей імя Янкі Купалы прадстаўляе выстаўку жывапісных работ Тамары Васіляўскене «Турботы і дні Крысціёнаса Данелайціса» з фондаў Калінінградскага абласнога гісторыка-мастацкага музея. Экспазіцыя, якая на працягу 2013 года з поспехам выстаўлялася ў Калінінградзе, Вільнюсе і Каўнасе, адкрылася ў Мінску пры актыўнай падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і Пасольства Літоўскай Рэспублікі ў нашай краіне.



Выстаўка прымеркавана да 300-гадовага юбілею пачынальніка і класіка літоўскай літаратуры Крысціёнаса Данелайціса (1714 — 1780). Рознабакова адораны, выдатна адукаваны, Данелайціс імкнуўся быць карысным свайму народу. Для жыхароў Тальмінкеміса, дзе ён служыў настаяцелем лютэранскага прыхода, Данелайціс быў і святаром, і настаўнікам. Яго намаганнямі замест заняпалай кіркі была ўзведзена каменная, на ўласныя сродкі Данелайціс пабудаваў дом для пастарскіх удоў і новую школу. Любоў да свайго народа, яго культуры і звычаяў, мовы, цудоўнай прыроды роднага краю, глыбокае веданне народнага жыцця, нялёгкай сялянскай працы знайшлі яркі адбітак у паэме Крысціёнаса Данелайціса «Чатыры пары года», якая ўключана ЮНЕСКА ў спіс «Шэдэўры еўрапейскай літаратуры».

Гісторыя не захавала партрэтаў Данелайціса. Але мастачка Тамара Васіляўскене ўзялася за вырашэнне складанай задачы. У яе работах адчуваецца спасціжэнне эпохі, карпатлівае вывучэнне трактоўкі мінуўшчыны жывапісцамі іншых часоў.

**Таццяна ШЫМУК**

# Паэты нёманскіх краёў

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбыліся чытанні з нагоды 300-гадовага юбілею літоўскага паэта Крысціёнаса Данелайціса, аўтара паэмы «Чатыры пары года», унесенай ЮНЕСКА ў спіс лепшых літаратурных твораў Еўропы.

Той жа арганізацыяй 2014 год абвешчаны годам К. Данелайціса. А ў Беларусі гэта год Гасціннасці. Натуральна, што музей беларускага класіка расчыніў дзверы для прыхільнікаў і захавальнікаў спадчыны літоўскага паэта.

Але гэта яшчэ далёка не ўся нагода. Паміж паэмай «Новая зямля» і літоўскай «Metai» («Чатыры пары года» ў перакладзе А. Зарыцкага) існуе моцная ўзаемасувязь, нягледзячы на тое, што іх раздзяляюць стагоддзі: сувязь змястоўная і сімвалічная, урэшце — адзіна годная для сапраўднага параўнання. Абодва творы ўслаўляюць селяніна ў «родным куце», паэтызуюць клопат і маральны кодэкс чалавека працы. Абодва паэты бачаць такога чалавека асновай нацыі.

Гранічная матывацыя стварэння такіх тэкстаў — крытычны стан Радзімы, якая мусіць апынуцца прыгонніцкай перыферыяй рознага кшталту імперый. Натуральна, «Новая зямля» і «Чатыры пары года» ўспрымаюцца сімваламі не толькі сваіх літаратур, але і ўвогуле сваіх нацый. «Як у Расіі Пушкін — «наша ўсё», гэтаксама Данелайціс — усё для літоўскага народа: пачатак паэзіі, літаратуры, мастацкай культуры, — адзначыў дырэктар Калінінградскага абласнога гісторыка-мастацкага музея Сяргей Акімаў. — У асобах двух вялікіх паэтаў мы аб'ядноўваем вялікую традыцыю».

Прысутны на імпрэзе Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Эвалдас Ігнатавічус мусіў прызнацца: «Адразу я быў крыху здзіўлены; якая можа быць сувязь паміж К. Данелайцісам і Якубам Коласам? Цяпер добра ўяўляю: гэтая сувязь перасягае межы дзяржаў і стагоддзяў». Разважаючы, спадар пасол выказаў яшчэ адну грунтоўную думку: «Калі мы ўсведамляем свет — іншыя краіны, іх паэзію і культуру, — мы па-новаму глядзім і на саміх сябе».

Сведчаннем шчырай цікавасці спадара Э. Ігнатавічуса да творчасці беларускага класіка стаў пераклад урыўка з паэмы «Новая зямля» на літоўскую мову. «Які ўрывак мог абраць для перакладу літовец? Канечне ж, — пра шлях у Вільню», — напаўжартам пракаменціраваў свой выбар спадар пасол. Цяпер беларуская нацыянальная паэма, хаця б часткова, гучыць і па-літоўску. Мяркуючы па захаваным рытме — досыць аўтэнтычна.

Ажылі і іншыя ўрыўкі з абодвух твораў. Артыст Алег Вінярскі па-майстэрску агучыў раздзел «Каляды» — якраз дарэчы ў калядныя дні. Музычна-песенную ілюстрацыю каляднай тэмы ажыццявілі ўдзельніцы гурта «Горынь».

Інтэрактыўным складнікам імпрэзы стала дэкламаванне паэмы К. Данелайціса. Практыка грамадскага чытання класічных твораў прыйшла да нас з Еўропы. Агульнавядомыя, прыкладам, чытанні «Ста гадоў адзіноты» Г. Гарсія Маркеса ў Партугаліі і Іспаніі. За невялікі адрэзак часу гэта стала неад'емнай часткай і нашага літаратурнага жыцця. Але звычайна агучваюцца менавіта айчынныя творы, таму чытанне паэмы К. Данелайціса ў Коласавым доме можна лічыць унікальным.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

*Імпрэзы*

# Шляхетным штылем

«Калядны канцэрт» у выкананні народнага фальклорнага ансамбля «Тутэйшая шляхта» ператварыўся ў яркую касцюміраваную імпрэзу. Мілагучныя песні і танцы пад старажытную музыку, харызматычныя сцэнкі, нават бітву на шаблях убачылі наведвальнікі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Нават не верыцца, што ўдзельнікі гурта, высакародныя, прыгожыя паненкі і статныя, мужныя паны, у жыцці — звычайныя, але таленавітыя студэнты і выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Заснавальнік і мастацкі кіраўнік ансамбля, хормайстар Лявон Махнач распавёў пра адметнасці калектыву, уласны талісман і мары пра трэці альбом.

Народная музыка ў Беларусі не знікла, яе ведаюць, іграюць, але аддаюць перавагу сялянскім матывам. Свецкі фальклор, інтэлігентны, вытанчаны і захапляльны, — прывілей «Тутэйшай шляхты». У распараджэнні амаль дваццаці хлопцаў і дзяўчат — цымбалы і скрыпка, бас- і электрагітара, духавыя інструменты, бубны і, канечне, моцная энергія і натхненне.

Ансамбль існуе больш як два дзесяцігоддзі і верна служыць сваёй мэце — адрадзіць народную спадчыну. Праграма выступленняў складаецца з беларускіх песень, якія былі папулярныя ў асяроддзі вялікалітоўскай шляхты, але несправядліва згубіліся пад ценем стагоддзяў. Дзе іх шукаць? У бібліятэках, асабліва — у залах рэдкай кнігі, старажытных зборніках. Назвы гавораць за сябе: «Ходзіло-блудзіло», «Чырвоная калінанька», «На Йорданской рэчцы», «Гэй, паехаў сын Даніла» ды шмат іншых. Характэрная іх рыса — дыялог, які вядзе спявак з калегам ці аўдыторыяй, падрымліваючы ўзаемны інтарэс. Лявон Махнач паведаміў, што магнатышляхціцы стварылі моцную культуру. Яны ладзілі канцэрты пры дварах і ўдзельнічалі ў іх самі, бо мелі добрую музычную адукацыю. Пісалі песні, якія потым станавіліся народнымі. Ці ж варта пра гэта забываць?

У творчай скарбонцы калектыву — два студыйныя альбомы 2001 і 2011 гадоў. Паводле Лявона Махнача, цяпер калектыў працуе над трэцім дыскам, які павінен увабраць усё лепшае ад папярэдніх.

Музыкі, акрамя выступленняў у Мінску, гастралююць па Польшчы, Літве, Латвіі, Эстоніі, Нарвегіі, Украіне, дзе іх заўсёды цёпла сустракаюць. Летась у межах фестывалю народнай творчасці «Сузор'е» гурт атрымаў ганаровае званне лепшага самадзейнага ансамбля беларускай сталіцы.

«Калядны канцэрт» стварыў у музейнай зале адчуванне гармоніі, свята і дабрыні.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Памяці настаўніка

У сталічнай бібліятэцы № 5 адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння беларускага паэта, празаіка, кінадраматурга, перакладчыка, заслужанага дзеяча культуры БССР Анатоля Вялюгіна.

Вядучаму мерапрыемства — старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, паэту Міхасю Пазнякову — было што распавесці пра асабістыя сустрэчы з Анатолем Вялюгіным. Самы ўлюбёны, сталы занятак — быць «хросным бацькам» першых паэтычных падборак і зборнікаў маладых аўтараў, успамінаў Міхась Паўлавіч. Гэты шчаслівы лёс не абмінуў і палымянскую публікацыю нізкі вершаў Пазнякова, ухваленай Вялюгіным і надрукаванай у далёкім 1984-м. З асабістых архіваў быў прадстаўлены здымак Анатоля Сцяпанавіча з дарчым надпісам.

Аддаць даніну павагі калегу і сябру прыйшлі Уладзімір Карызна і Казімір Камейша.

Уладзімір Іванавіч узгадаў, як Анатоль Сцяпанавіч мог непадробна і ад усяго сэрца радавацца поспехам сяброў-пісьменнікаў. Казімір Камейша нагадаў прыхільнікам творчасці А. Вялюгіна біяграфічныя звесткі, дзе гаварылася пра вучобу падчас вайны ў Луганскай авіяшколе і пра апантанасць небам ужо ў мірныя час.

Пісьменнік, даследчык і бард Аляксандр Вашчанка выканаў невялікую музычную імправізацыю на словы Анатоля Вялюгіна і прадставіў некалькі песень на ўласныя вершы.

На мерапрыемстве прысутнічалі і іншыя творцы: Дар'я Лёсава, Іна Фралова, Вольга Шпакевіч, Валерый Чудаў.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Горад майго сэрца

У Заслаўскай дзіцячай школе мастацтваў адбылася творчая сустрэча з паэтам, празаікам і кампазітарам Дзмітрыем Пятровічам «Горад майго сэрца». Мерапрыемства, прысвечанае прэзентацыі кнігі «Белая Жанчына», арганізавалі выдавецтва «Чатыры чвэрці», Заслаўскі гарвыканкам і Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Заслаўе — горад, дзе нарадзіўся Дзмітрый Леанідавіч. Таму вельмі сімвалічна, што са сцэны гучалі многія вершы і песні, прысвечаныя гэтаму гістарычна значнаму гораду Беларусі. Для запрашэння на сцэну сваіх калег па пяры Д. Пятровіч выкарыстаў арыгінальны прыём: кожнага аб'яўляў песняй, напісанай на словы выступоўцы. Падтрымаць творцу і сказаць добрае слова пра новую кнігу прыехалі пісьменнікі Генадзь Пашкоў, Міхась Пазнякоў, Святлана Быкава, Віктар Шніп, Рагнед Малахоўскі, Уладзімір Ермалаеў і Мікола Шабовіч. Радасным падарункам для ўсіх сталіся песні ў выкананні Анатоля Міхальчэнкава. На сцэне выступілі хор і ансамбль скрыпачоў Заслаўскай дзіцячай школы мастацтваў, а таксама вучні Заслаўскай агульнаадукацыйнай школы. Віншаванні прагучалі і ад прадстаўнікоў мясцовай улады — намесніка старшыні Заслаўскага гарвыканкама Дзяніса Собаля і кіраўніка справамі Заслаўскага гарвыканкама Маргарыты Канавалавай.

Кніга «Белая Жанчына» — шчырая споведзь чалавека, які ганарыцца, што ён беларус. Ганарыцца сваім родным Заслаўем і тым, што ў нас так шмат дзівосных мясцін.

Варта адзначыць сур'ёзную падрыхтоўчую працу, якую супрацоўнікі выдавецтва «Чатыры чвэрці» зрабілі разам з творцамі, каб мерапрыемства прайшло на высокім узроўні. Заслаўская гарадская бібліятэка і Заслаўская дзіцячая школа мастацтваў атрымалі падарунак ад выдавецтва — новыя кнігі.

**Людміла ГАТАВІЦКАЯ**

Таццяна МУШЫНСКАЯ



# Твае пачуцці свет азорацк мой...

## Завіруха

Ноччу і днём завіруха кружыла,
Замеццю белай яна варажыла,
Ладзіла пышны, шыкоўны свой баль,
Слала сумётамі белы паркаль,
Слала танюткі ўрачысты сувой,
Спеліла ў небе і ў душах спакой.

***

У начы таямнічай
Шумяць і шумяць вершаліны.
Суціш ты мне сэрца
Хаця б на хвіліну...

У начы таямнічай,
Дзе падаюць, падаюць знічкі,
Мяне суцяшалі
Лясныя крынічкі.

У начы таямнічай,
Дзе зорачак, зорачак поўна,
Мяне суцяшала
Ласкавая поўня.

У начы таямнічай,
Дзе спеюць, красуюць палеткі,
Мяне суцяшалі
Духмяныя кветкі.

У начы таямнічай
Шумяць і шумяць вершаліны,
Суціш ты мне сэрца
Хаця б на хвіліну...

***

Чаму ў душы хаос,
Разладдзе і няпэўнасць?

Куды спакой мой знік,
Сышоў, растаў, прапаў?

І свет, як шар зямны,
Сваю арбіту страціў.

Куды імчыцца ён,
Дзе знойдзе свой спачын?

***

Ты хвалюеш мяне, як хвалі.
Яны ўніз, потым ўверх нас кідаюць.
Хвалі пырскамі ў штыль смяюцца,
Хвалі ў шторм безнадзейна рыдаюць.

Хваля нас у нябёсы уздыме —
І над морам, і над сабою.
Ну, а потым у цемру нізрыне —
І ўсё так, як у нас з табою.

І гайдае, гайдае хваля
У няспынным, нястрыманым руху.
Як пачуцці твае неспакойныя...
Ці цябе я, ці мора слухаю?

***

Твае пачуцці свет азорацк мой
Магутнай, невядомай, светлай сілай.
І зробяць усё такім, як я прасіла,
У той міг, калі сустрэўся ты са мной.

Твая любоў, я ведаю, міне...
Спіс доўгі страт.
Да новых я гатовая.
Расстанняў усіх дарога адмысловая.
Залева страсці не на нас ліне.

Калі міне, развеецца любоў,
Свет навакол пачне гучаць наноў.
Не зможаш ты святло ў яго забраць,
Ён будзе успамінамі спяваць.

***

Я хачу заблукаць у лесе
Між яго нестаптаных сцежак,
Дзе пануе змрок, і вільготнасць,
І вясёлы дух сыраежак.

Я хачу згубіцца ў сінечы
Ці аблокам бялюткім стаць.
І бяздумна плыць над зямлёю,
У блакіце моўчкі растаць.

Таццяна СІВЕЦ



***

Пакуль ты маленькі, цябе трымаюць
і не даюць упасці.
Праўда, ты яшчэ не здагадваешся,
што вось гэта — шчасце…
А потым ты кажаш:
«Хопіць трымаць мяне за руку!
Што я вам, немаўля бязглуздае —
у вазку?!»
Бо перад табою — жыццё, свабода,
сцэна, глядзельны зал…
Яны чакаюць, і ты ўжо маеш,
што ім сказаць.
І падаеш у штодзённасць,
быццам бы з берага — у раку,
Ды ўнізе няма нічога апроч пяску!
І ты кроў выціскаеш паволі —
замест вады.
Глядзіш, як наўкола квітнеюць
твае сады…
Ды потым — так нечакана! —
зіма, зіма…
А ў табе болей нават кроплі
крыві
няма.
Па той бок —
ты бачыш? —
на дровы твой сад сякуць…
І няма больш нікога, хто б утрымаў…
Патрымаў цябе за руку…

***

Я прыношу штоночы яму —
малако і мёд…
Я імя яго чую між соцень чужых імён…
Я гукаю яго, як вясну, іду за ім —
па слядах.
Я нікому яго, ніколі яго не аддам!

Гэты час — бы вір, гэты час —
бы калючы дрот.
Умываюся не вадою — пылам з яго дарог.
Калі ён адзін, калі холадна ці агонь,
Я прашу за яго багоў…

Буду Вільняй яго, буду ветрам у валасах,
Памяць сваю аддам яму — у пасаг.
Толькі ранкам — ізноў у камень,
ізноў — у дол!
Ой, чыя ж гэта рута-мята
ды за вадой?..

***

Why, my son, мы становімся мяккімі?
І хтосьці лепіць з нас,
з гэтага белага мякішу,
Штосьці чужое, не нашае,
Тое, што ён яшчэ не страчаў…
Вусны сухія, і хочацца не маўчаць…
Але… Ведаеш, сыне, часам лепей
не слухацца мацярок,
Пакідаць некаторыя кнігі
недачытанымі, незнарок
Замаўляць нумары там, дзе горы і
Там, дзе восенню трыццаць пяць,
Навучыцца спаць
Поначы, хоць бы часам,
Не помнячы гэтыя словы і той
тэлефонны нумар…
Нам не гуляць у вайну. Мы…
Занадта жывыя і гордыя…
І нічога не трэба — чуеш?! —
нічога не трэба для шчасця.

***

Ну, якія вершы тут,
Калі ты — напрасвет — як рэшата?!
Калі цябе выпілі — усяго дарэшты —
так,
Што і памяці (нават на дне) няма...
Вось і глядзі цяпер з гэтых дзірак —
Уверх, у вечнасць і...
Каму ты патрэбны ўрэшце —
Такі знявечаны?!
Толькі зіме, канечне...
Ды дзе там твая зіма?..



Фота Кастуся Дробава

Таццяна БЕЛАНОГАЯ



## Мама

Я вады не піла, таму і кволая я.
Я іду ад відна, таму стамілася я.
Мама, дзе ты? Дай напіцца вады.
Мама, мама, дзе ты?

Ўперад звалі дарогі ды калолі мне ногі.
Калыхалі нябёсы ды гладзілі косы.
Мама, сагрэй полымем вачэй!
Мама, мама, дзе ты?

Давялося стаяць там, дзе гоман і рух.
Давялося ўцякаць ад усёвідушчых рук.
Мама, пасцялі маёй душы,
Разгубленай душы.

Пакахала я званых ды прагнала абраных.
Пыл цяплом атуляла, ды ўсмешка знікала.
Мама, кулі не раняць.
Мама, словы страляюць.

Я вады не піла, таму і кволая я.
Я іду ад відна, таму стамілася я.
Мама, дзе ты? Дай напіцца вады.
Мама, мама, дзе ты?

## Малітва

Калі ў вачох нічога,
акрамя адбіткаў святла ліхтароў,
Калі на сэрцы трывога,
а на пальцах кроў,
Збірайся ў дарогу — дарога твой дом,
Збірайся ў дарогу — дарога твой брат.

«Я хачу быць з табой,
я хачу быць з табой», —
Казала зорка ў небе,
ляцела малітва ўверх.
У мяне ёсць тое, у мяне ёсць тое,
Што падарыў Бог, — гэта Любоў.
Іду за ёю па вадзе, іду за ёю па вадзе...

І, можа быць, лепей,
што ты не такі, як усе.
І, можа быць, лепей,
што ты любіш набыць адзін.
Дарога не дазволіць старэць,
дарога пытанне задасць.
Дарога не дазволіць старэць,
і дарога адказ табе дасць.

«Я хачу быць з табой,
я хачу быць з табой», —
Казала зорка ў небе,
ляцела малітва ўверх.
У мяне ёсць тое, у мяне ёсць тое,
Што падарыў Бог — Любоў.
Ідзі за ёю па вадзе, ідзі за ёю па вадзе...

## Горы

Я люблю глядзець на горы.
Яны бліжэй да неба.
Ты падымаеш мяне на сваіх руках.

Я люблю глядзець на мора.
Вецер нараджае хвалі.
Ты жывеш прасторай у маіх грудзях.

Занадта блізка, вельмі далёка.
Занадта нізка, вельмі высока.
Занадта лёгка, вельмі цяжка —
Звычайнае каханне.

Я люблю глядзець на срэбра душ —
Размовы людзей, смех дзяцей.
Размаўляй са мной і трымай мяне за руку.

Я сказала: «Люблю».
Адгукнулася: «Кахаю».
І патанае каменне ў глыбокіх морах.

Занадта блізка, вельмі далёка.
Занадта нізка, вельмі высока.
Занадта лёгка, вельмі цяжка —
Звычайнае каханне.

## Я веру ў любоў

Я тая, што затрымала свой позірк.
Адказу няма.
Я тая, што доўга маўчала.
Так хацела сама.
Я тая, што вельмі кахала. Адказу няма.
Я тая, што бачыла кола.

Я не веру ў літары, я веру ў любоў.
Я не веру ў знакі, я веру ў любоў.
Я не веру ў гукі, я веру ў любоў.

Я тая, якой пяць мільярдаў.
Ты будзеш вечна.
Я тая, што будзе падаць. Усё так дзіўна.
Я тая, якой трэба неба. Ты будзеш вечна.
Я тая, што будзе лётаць.

Я тая, што крочыць. За вакном вясна.
Я тая, што танчыць. Паламана сэрца.
Я тая, што спявае. За вакном вясна.
Я тая, што шукае.

Я не веру ў літары, я веру ў любоў.
Я не веру ў знакі, я веру ў любоў.
Я не веру ў гукі, я веру ў любоў.
Я веру.

## Анатоль Смалянка

# Раніца

*Апавяданне*



— Сця-па-ан, уставай! Хутка дзесяць! — увайшла ў спальню Валянціна і пачала ўголас будзіць мужа, крутнулася перад люстэркам, папраўляючы зробленую ў цырульні аграгарадка модную прычоску. — Няхай хлапчукі паспяць, а мы перакусім крыху, тое-сёе згатуем і для нашай госці. А як жа! Колькі гадкоў пранеслася, як развіталіся! Уставай хутчэй!

— Ну што ты ні свет ні зара крыку нарабіла! Сёння ж нядзеля, выхадны дзень, паспеем яшчэ ўсё зрабіць да прыезду Ларысы, — прабурчэў Сцяпан Раманавіч, аднак прыўзняўся, соладка пацягнуўся і звесіў ногі з ложка ў хатнія тапкі. — Іду.

Жонка, напяваючы нейкую мелодыю, жвава выйшла на кухню, упэўненая, што ён, як заўсёды гэта бывае, не зможа ёй не падпарадкавацца.

— Ларыса казала па тэлефоне, што ў Міры зазірне на гадзінку да школьнай сяброўкі, — патлумачыў Сцяпан, сядаючы за стол наўпроць талеркі са смажанай бульбай. — Паснедаю ды пайду гляну трактар, нешта «чхае» рухавічок...

— У цябе на ўме толькі гэтая старая жалязяка. У іншых даўно новенькія «Беларусы», — у які раз папракала яна мужа. — Вунь Ягор Хмылёў і Ванька Статкевіч у гэтым годзе адразу пасля вучылішча селі на новенькія машыны і гора не ведаюць, а ты, лічы, дваццаць сезонаў на адным і тым жа, не трактар — іржавая калымага.

Пасля абеду ўся сям'я Купрэвічаў, бы на якую вялікую ўрачыстасць, накіравалася ў цэнтр аграгарадка: паабапал мужа і жонкі — дзеці з сур'ёзнымі тварамі. Гаспадар у карычневым касцюме пад гальштукам, у чорных туфлях з вострымі насамі, але няцяжка было заўважыць, што адчуваў ён сябе не зусім камфортна, хутчэй, як кажуць, быў не ў сваёй талерцы. Так прыбраць параіла жонка, чаму ён адразу падпарадкаваўся. Не адстала ад яго і яна сама: на сваю поўную фігуру нацягнула блакітную сукенку з нейкім адмысловым узорам і дэкальтэ, мусіць, каб лепш былі відаць зіхоткія кулон і завушніцы. Яна часцяком нахілялася да мужа, нібыта слухала яго, сама нешта шаптала на вуха.

Дзецям не хапала цярплівасці быць каля бацькоў, яны адбягаліся ўбок, блазнавалі, смяяліся на ўсю моц.

— Мам, а цётка Ларыса чыя сваячка? — пацікавіўся старэйшы.

— Як чыя? — здзівілася маці. — Сястра таты, а мне яна залвіца. Амаль пятнаццаць гадоў не бачыліся: час такі бязладны быў. Ларыса першая замуж выскачыла, пайшла за чужога хлопца, і ён звёз яе да сябе, а праз два гады і я рашылася... Дзядуля ваш за Ларысай пацягнуўся, яна ж медычка... Хлопцы, далёка не адыходзьце ад нас, хутка ўжо аўтобус будзе, — крыкнула наўздагон ім маці, калі яны адбеглі за будынак вакзала.

Яна падышла бліжэй да мужа і, зыркнуўшы падазрона па баках, зашаптала:

— Ларыса едзе да нас не проста так, — Валянціна замаўчала, чакаючы, як на гэта адрэагуе Сцяпан, але той маўчаў. — Хоча доўг выцягнуць з нас, — яна мела намер яшчэ нешта сказаць, але муж, здзівіўшыся, раптам перапыніў яе:

— Які доўг? Што ты? Мы ніколі ў іх грошай не бралі і не прасілі пазычыць.

— Які ж ты ў мяне нездагадлівы, — яна зноў агледзелася наўкол. — Ларыса запатрабуе грошы за сваю частку спадчыны, бацька, бадай, завяшчанне зрабіў на вас дваіх. Так? Вось ён і паслаў яе разабрацца ва ўсім гэтым. Галаву адсячы, калі гэта не так.

— Што табе з таго, калі будзеш без галавы? — Сцяпан засмяяўся і праз некалькі секунд упэўнена прамовіў: — У іх хата большая за нашу, месца ўсім хапае, і ніколі пра дзяльбу і размовы не было.

— Не было, дык хутка будзе. — Валянціна сказала, як адрэзала. — Ты ўжо не будзь цюхцяем, калі размова пойдзе пра грошы, збівай цану да апошняга, смела, упарта, нягледзячы на тое, што родзічы, — катэгарычна параіла яна мужу. — Бяры кветкі, аддасі сястры.

— Вунь ужо і аўтобус коціцца, і, як заўжды, са спазненнем, — заўважыў Сцяпан Раманавіч.

Пасажыраў было няшмат. Выйшла Ларыса, бадзёрая, вясёлая, з прыемнай усмешкай, апранутая ў кароценькую куртачку, распушчаныя — па модзе — валасы вольна сцякалі па плячах. Сястра адразу ж заўважыла брата і кінулася да яго. Яны абняліся. Падышла і Валянціна, прытулілася да залвіцы. Ларыса здзівілася, пабачыўшы хлопцаў: «О-о, якія ў вас слаўныя хлопчыкі! Старэйшы ўвесь у бацьку, малодшы — падобны да маці».

— Ну, як вы там жывяце? — ідучы дадому, спытала Валянціна. — Адбіліся ад нас, ды й мы ніяк не збяромся вас наведаць...

— Адна ў нас зямля, адна краіна. Не будзем забываць адзін аднаго, часцей сустракацца трэба.

— Так, — пагадзілася Валянціна.

— Тым больш што дзеці ўжо падняліся, час у нас ёсць. Куды ехаць і навошта дзесьці шукаць шчасце, калі яно побач з намі? Што яшчэ трэба? Прыжыліся мы на чужыне, людзі там добрыя. Ой, хату родную бачу! Вітаю яе! Цябе я пазнала, а ты мяне? Тут прайшлі мае самыя лепшыя гады, і я не магу пра іх забыцца.

— Як там бацька? — узнімаючыся па прыступках на ганак, запытаў Сцяпан.

— Хварэе ўсё. Я ў яго самая лепшая доктарка, што ні скажу, тое і робіць. Прывітанне ўсім перадае, — Ларыса ўслед за гаспадаром зайшла ў хату. — Бацька хацеў ехаць са мной, але спужаўся, што дарога занадта доўгая, як-ніяк яму ўжо восемдзесят пяць.

— Сястрычка, размяшчайся, лічы, што дома, а мы з Валяй возьмемся гатаваць штосьці да стала. Хутка суседзі заявяцца. — Ён пайшоў у спальню пераапранацца.

Да гэтай размовы ўважліва прыслухоўвалася Валянціна. «Значыць, я не памылілася, мае здагадкі пацвердзяцца, — падумала яна. — Я з яе выцягну праўду, няхай толькі ўсе разыдуцца».

Непрыкметна наваколле агарнулі прыцемкі, яшчэ больш скараціўшы восеньскі дзень. Хутка ўся вёска патанула ў цемры. У хаце Купрэвічаў — яркае святло, асветлены і вуліца наўпроць хаты, і сцежка ля веранды. Першым з'явіўся механік сельгаскааператыву Арцём Сямёнавіч з жонкай Эльвірай. Яна галоўны бухгалтар. Жывуць яны побач, цераз вуліцу, сябруюць сем'ямі. Увайшоў і другі сусед, былы франтавік Серафім Пракопчык, які жыў у маркотным адзіноцтве, бо яго жонка памерла рана, а сыны з'ехалі кудысь у Расію... Сумна дзядулю, няхай хоць з людзьмі пабалакае. А яшчэ падышла бабуля Мялешка з іншай вуліцы — сястра па маці Сцяпана і Ларысы, былая звеннявая льнаводчай брыгады, на яе хаце да гэтага часу красуецца таблічка пра тое, што тут жыве знакамітая калгасніца. Яна нікому не дазваляе здымаць шыльду, кажа, што гэта музейная рэдкасць.

Застолле было доўгім і шумным. Пра многае гаварылі: успаміналі далёкую маладосць, пераключаліся на сённяшнія дні, а Валянціна пад агульны гоман ніяк не магла хоць маленькі штрышок улавіць пра дзяльбу сядзібы. Гэта яе хвалявала больш за ўсё. А запытаць напрамую ў Ларысы не адважвалася ў прысутнасці староннніх людзей: ці мала што могуць потым прыдумаць і пусціць плёткі па ўсёй вёсцы.

Бліжэй да паўночы Серафім Кірылавіч Пракопчык, расказаўшы яшчэ пра два баявыя эпізоды, а таксама пра тое, што за ўдзел у адным з іх яго ўзнагародзілі другім ордэнам Чырвонай Зоркі, а за штурм Берліна — медалём «За адвагу», падняўся ды й пайшоў, палічыўшы, што яму ўжо больш няма чаго ўспамінаць.

Механік Арцём і Сцяпан гаманілі пра сваю працу і рамонт трактара. Валянціна, улавіўшы зручны момант, уклінілася ў размову, лісліва папрасіла ў Арцёма:

— Сямёнавіч, усе кажуць, што вы добры чалавек, дык паклапаціцеся пра майго Сцяпана, перасадзіце яго на новы трактар. Ну не можа ён за сябе пастаяць, пакутуе на старым... Аддзячу вам!

— Кінь ты чалавеку галаву пустэчай забіваць, — абарваў жонку муж, узяў Арцёма пад руку, і яны накіраваліся на вуліцу. Услед за імі пайшла і Эльвіра.

— Вось так заўжды! — паспела з некаторай незадаволенасцю прамовіць жонка, глянуўшы на Ларысу. — Бачыш, дзеля яго ж стараюся, а ён як быў цюхцяем, так ім і застаўся. Потым мы з табой пра ўсё перамовімся.

Жанчыны прыбралі са стала, навялі парадак у пакоі. І ўвесь гэты час, не спыняючыся ні на хвілінку, згадвалі маладосць. Толькі і чулася: «А памятаеш?» — і за гэтым ішоў нейкі цікавы расповед.

— Вось твой Руслан — малайчына: скончыў універсітэт, стаў ляснічым, у людзі выйшаў... Да гэтай пары памятаю яго ў марацкай форме: бесказырка, стужачкі трапечуць, а сам... такі ладны, высокі, прыгожы. Дзяўчаты аж розум гублялі, вачэй з яго не зводзілі. А вось ты запала ў яго сэрца больш, чым якая з нас. Звёз цябе, ты ў той год якраз медвучылішча скончыла. Не думаеце сюды перабрацца?

— А навошта? — Ларыса супакоіла Валянціну тым, што там яны ўжо добра ўсталяваліся, сям'я моцная, надзейная, — усё ў іх ёсць для шчаслівага жыцця. — Брацік мой — працавіты, добрай душы чалавек, вось і гаспадарку мае, сыны здаровенькія, добра вучацца. Сцяпан быў вельмі рады, што ты яму аддала перавагу, а не Фядоту, пра якога па вёсцы прымаўка і плёткі хадзілі: «Фядот — хітры кот».

Ларысе паслалі спаць у вялікім пакоі на канапе. Валянціна прысела ля ўзгалоўя і пачала распавядаць пра свае сямейныя праблемы: і грошай мала зарабляе, і не хоча займацца бізнесам яе брацік, яму заўжды ўсяго хапае, а дзяцей схіляе да таго, каб прывучаліся да тэхнікі, каб засталіся ў вёсцы, дзе работа заўсёды знойдзецца...

— Федзя за мной бегаў, прапаноўваў руку і сэрца, строіў вочкі і намер меў сур'ёзны, а я, дурніца, пайшла замуж за Сцяпана, — перакінулася на іншую тэму Валянціна і з бачным жалем працягвала: — Цяпер хоць локці сабе кусай, сама вінаватая. У Федзі — двухпавярховы катэдж у райцэнтры, на новенькай іншамарцы ездзіць, кожны год то ў Егіпет, то ў Турцыю, то на нейкія астравы ў акіяне... Кажуць, грошай у яго куры не клююць. У Мінску сыну кватэру шыкоўную пабудаваў, прыстроіў у багатую фірму, цяпер той у Англіі вучыцца.

У Ларысы зліпаліся павекі — манатонны голас Валянціны закалыхваў госцю. Усё гэта далёкія «памылкі маладосці», і не варта цяпер пра нешта шкадаваць. Не той жаніх, бач. Усё гэта Ларысу мала цікавіла. Чаго не ўспомніш пра тыя часы на вёсцы: танцы пад гармонік, першы пацалунак і горкае расстанне, крыўды, расчараванні. Па-рознаму склаўся лёс аднакласнікаў: адзін стаў вучоным, другі — генералам, той быў лётчыкам ды загінуў у Афганістане, а хтосьці і трактарыстам, так бы мовіць, каму што лёсам было наканавана, так і жыццё склалася. Немагчыма адшукаць «залатую сярэдзіну», так і шчасце не заўсёды сустрэнеш на жыццёвым шляху. «Зашмат ці мала шчасця не бывае, яно проста шчасце», — блыталася ў думках Ларыса. Яна адвярнулася да сцяны, нацягнула на сябе прасціну і супакоілася: «Раніцай будзе ўсё інакш, прагуляюся па аграгарадку і пагляджу, якім ён стаў з новай школай, Домам культуры, дзіцячым садком, Домам быту, крамай, потым зайду на могілкі, праведаю маці».

— Ты яшчэ не спіш? — ціхенька спытала залвіцу Валянціна, падыходзячы да канапы. — За сталом мужчыны не далі пагаварыць па душах.

— Не, не сплю, — ленавата адказала Ларыса, павярнуўшыся да яе тварам.

— Колькі разоў казала Сцяпану: ну вазьміся ты за гэту — як яе — прадпрымальнасць... А ён ні ў якую! «У мяне ёсць занятак, — кажа. — А больш мне нічога не патрэбна», — пачала тлумачыць Валянціна залвіцы. — І дзецям гэта ў галовы ўбівае. Куды гэта годна? Ад яго не парфумай французскай патыхае, а за вярсту саляркай або газай нясе. Я адразу ганю яго ў лазню...

— Што ж зробіш, чалавек улюбёны ў сваю справу, — сонна прамовіла Ларыса і павярнулася на другі бок.

— Ну, спі, — адобрыла яе намер Валянціна і пайшла з пакоя. Але вярнулася.

— Што яшчэ я хацела сказаць? Збірала грошы на паездку ў Грэцыю ці на Канары гэтыя, каб адпачыць па-чалавечы, паглядзець, як людзі на свеце жывуць, а ён мне кажа: «Едзь сабе». Не падумаў, хто ж будзе гаспадарку глядзець: куры, гусі, два падсвінкі. А праполка? Агарод, дзе морква, капуста, цыбуля, буракі, — усё на мне трымаецца.

Валянціна працягвала на чым свет стаіць ганіць мужа: ён і гультай, і мала зарабляе, ніяк не паставіць новую агароджу... Грошы вельмі патрэбны будуць. Яна лічыла, што залвіца вось-вось спытае яе, якую дарагую рэч збіраюцца яны набыць, але тая толькі шэптам заўважыла:

— У кожнай сям'і свае праблемы. — Прыўзнялася, прыкрылася прасцінай.

Валянціна пайшла ў спальню, але тут жа зноў вярнулася:

— Я табе яшчэ не ўсё сказала пра тое, якія ў нас праблемы, — убачыўшы, што госця засынае, падсела да яе. Тая схамянулася, расплюшчыла вочы, кінула позірк у вакно: «Днее».

— Доўга ж мы з табой гутарылі. Добрай ночы! — цяжка ўзнялася з канапы Валянціна і ля парога кінула на развітанне: — Вызначаную суму мы збяром і адразу ж аддадзім вам.

Ларыса не ўслухоўвалася ў гэтыя словы, яна баялася, што тая зноў вернецца і зноў будзе распавядаць немаведама пра што. Сну ў яе як не было. Яна крышачку паляжала, пакуль развіднела, ды пайшла ў ванны пакой. Яе сцішаную хаду пачуў Сцяпан. Выйшаў да яе.

— Што так рана падхапілася? — пацікавіўся брат.

— Хачу на могілкі забегчы, а потым яшчэ і на аўтобус паспець. Дахаты трэба, хвалююся, як там мой Руслан з дзецьмі ўпраўляецца ды з бацькам, мо дапамога якая патрэбна. Я ж для бацькі і доктарка, без мяне ён нікуды.

— Дзякуй за вашы падарункі, — Сцяпан зазірнуў у кладоўку і выйшаў з кардоннаю скрыначкай. — Тут адна дэталь да матаблока, новенькая, Руслан усё зразумее, а для бацькі — кашнэ шарсцяное, ну а хлопцам — цукеркі, а табе парфума айчынная, не горшая за французскую.

— Валянціна вельмі ўжо хацела выпытаць у мяне наконт спадчыны і выплаты нам за частку сядзібы. Здагадалася па яе размове, — Ларыса, падзякаваўшы за падарункі і пакуючы іх у сумку, звярнулася да брата: — Сцёпачка, родны ты мой, не будзі яе, а потым скажаш, што нічога нам не патрэбна, бацька ніякага завяшчання не зрабіў і рабіць не будзе. Я і ты — прамыя спадчыннікі, дзяльбы не будзе, усё пакідаем вам.

Ларыса выйшла на двор. Неба было чыстае. Ранішні ветрык павяваў прахалодай. Знікла нават жаданне яшчэ паспаць. Яна чакала Сцяпана, бо той выказаў жаданне пайсці з ёю на могілкі і правесці да аўтобуса. Пакуль ён апранаўся, Ларыса нарвала ў палісадніку восеньскіх кветак.

Ішлі хутка. Ля роднай магілкі стаялі моўчкі, не зводзячы позірку з да болю знаёмага твару маці. З даўняга фотаздымка яна замілавана глядзела на дачку і сына, ледзь узняўшы падбародак, быццам бы хацела нешта сказаць

# Сучаснае літаратуразнаўства: дыягназ і лекі

## ДА 85-ГОДДЗЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ

**«Залаты век» нашага акадэмічнага літаратуразнаўства прыпаў на другую палову 50-х — 80-я гады мінулага стагоддзя — пры ўсёй супярэчлівасці тагачаснай культурнай сітуацыі.**

Станаўленне і развіццё айчыннага літаратуразнаўства пачынаючы з 20 — 30-х гг. мінулага стагоддзя вызначалася двума істотнымі фактарамі: адзінай дыялектыка-матэрыялістычнай метадалогіяй і адзінствам навуковай прасторы ў былым СССР. Пры гэтым метадалогія дапускала даволі шырокі спектр асобных навукова-метадычных сістэм — ад лотманаўскага структуралізму да герменеўтыкі. Забарона на пэўныя імёны і творы або зададзенасць літаратуразнаўчых ацэнак абумоўліваліся не навуковай метадалогіяй, а ідэалогіяй камуністычнай. Справа, аднак, не ў тым, каб вызначаць залежнасць і розніцу гэтых паняццяў. Важней, што была выпрацавана адзіная навуковая тэрміналогія, адзінае поле навуковых паняццяў, у межах якога адбываўся дыялог літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў, публіцыстаў. Прычым дыялог гэты складаўся з найшырокага нацыянальнага шматгалосся. З'яўляючыся састаўной часткай савецкай навукі, беларускае літаратуразнаўства засвойвала «як свае» і развівала дасягненні гуманітарнай думкі ўсёй краіны. Я не маю на мэце вызначыць, «добра» ці «дрэнна» гэта было. Адзначу толькі, што ад часу стварэння Акадэміі некалькі пакаленняў вучоных выпрацавалі адносна аўтаномнае ад іншых гуманітарных навук духоўнае стварэнне — навуковую літаратуразнаўчую традыцыю, якая сама па сабе з'яўляецца кластарам нашай нацыянальнай культуры.

### «РАЗРУХА Ў ГАЛОВАХ»

Сучасны літаратурны працэс адбываецца зусім у іншай культурна-інфармацыйнай прасторы. Справа не абмяжоўваецца адным толькі пераразмеркаваннем ролі паміж мастацкай літаратурай, візуальнымі мастацтвамі, дакументалістыкай або ўзнікненнем своеасаблівай віртуальнай рэальнасці. Зразумела, інфармацыя ў цяперашнім свеце свядома падаецца ў вобразнай форме — ад рэкламы тавараў і паслуг да вучэбнага матэрыялу ў школьным падручніку, — прычым «тэхналогія» падачы разлічана на тое, каб выклікаць ва ўспрымальніка яркія і вострыя эмоцыі. З аднаго боку, псіхіка чалавека не вытрымлівае мэтанакіраванага ўздзеяння з розных бакоў і або замыкаецца ад яго (адсюль характэрная абыякавасць), або — непрадказальныя ў кожным асобным выпадку рэакцыі, яўная прага да лёгкага, смешнага, да знешне прывабнага, што не патрабуе ні глыбокай рэфлексіі, ні роздуму і не пакідае ў душы глыбокага следу. Літаратура, якая па сваёй прыродзе разлічана на няспешлівае ўспрыманне, на паглыбленне ў тэкст, на суперажыванне героям і аналітычны роздум над праблемамі быцця, нібы адыходзіць на другі план разам з духоўнымі каштоўнасцямі, якія нясе і сцвярджае. «Мастацкая літаратура як грамадскі інстытут, — адзначаў колькі гадоў таму Міхась Тычына, — перажывае не лепшыя часы. Скончылася эпоха «вялікіх нарацый», адзін за адным сыходзяць у лепшы свет «вялікія наратары» ХХ стагоддзя. Яны стварылі вакол сябе энергетычнае «поле літаратуры», структуравалі творчую прастору, у якой вольна жыло і дыхала беларускае слова. Ад былога маналіту СП адколваюцца па розных прычынах часткі «саюзаў», «аб'яднанняў», «груповак». У аснове гэтага працэсу імкненне вырашыць здаўненую праблему прафесійнай і аматарскай творчасці, элітарнай і масавай літаратуры, сталіцы і правінцыі, бытаапісальнай і інтэлектуальнай плыняў. Назіраецца небяспечнае павышэнне крытычнай тэмпературы вакол «літаратурнага пытання», калі застаецца толькі гучна абвясціць аб «смерці літаратуры» ў маштабах беларускага соцыуму і аб "скасаванні мастацкай літаратуры як сацыяльнага інстытута"». Калі такая тэндэнцыя захаваецца, то праз нейкі час вядомы афарызм Бялінскага з пэўнай доляй іроніі можна будзе перафразаваць: «У нас ёсць літаратары, але няма літаратуразнаўства».

У сучаснай навуковай супольнасці адсутнічае адзінства ў разуменні звышзадачы навуковай творчасці, ніяк не суадносяцца паміж сабой асобныя метадалагічныя напрамкі, няма адзінай тэрміналогіі... Ды шмат чаго няма! А здольныя літаратары, несумненна, ёсць! Але, адрываючыся як ад традыцыі, так і ад прадмета і задач даследавання, навука ператвараецца ў «пара-навуку» — у эсэістыку на тэму «пра сябе і пра свет», «я і літаратура», «маё разуменне прачытанага» і да т. п. Магчыма, што ў гэтым выяўляецца і агульны подых эпохі постмадэрну з яе «атамарнай» свядомасцю, імкненнем да нематываванага законамі свету індывідуальна перабудоўваць свет па сваім разуменні хаця б на паперы. Магчыма... Не бяруся меркаваць... Але дамінантным для даследчыка часам пачынае рабіцца не дапытлівасць і прага спазнаць, «што ёсць дадзеная з'ява сама па сабе?», а жаданне выказаць, «што я думаю пра гэтую з'яву». Паміж гэтымі двума пасыламі да творчай дзейнасці кардынальная розніца, нават процілегласць. Занадта часта літаратарскае «я» робіцца і прадметам, і аб'ектам, і мэтай паранавуковай «работы». А паколькі сістэма дыялектыка-матэрыялістычных крытэрыяў навуковасці абрынулася разам з самою метадалогіяй, то за навуковасць пачынае прымацца арыгінальнасць, парадаксальнасць мыслення амаль што безадносна да таго, пра што даследчык распавядае. Асаблівую ролю ў цяперашніх умовах пачаў адыгрываць навуковы стыль выкладання, якім асоба будучага літаратара з большай ці меншай ступенню паспяховасці авалодвае яшчэ ва ўніверсітэце. Удала патрапіўшы ў каляіну гэтага стылю, можна колькі заўгодна соўгацца ў ёй, выдаючы артыкулы ў друку або размяшчаючы іх у інтэрнэце. Навуковападобнае выкладанне — адна з вельмі характэрных прыкмет сучаснага пара-літаратуразнаўства, а неўнармаваныя тэрміналагічныя вынаходніцтвы, насамрэч запазычаныя з сумежных навук ці замежных даследаванняў і мала каму зразумелыя, — яго адметнасць. Пры чым тут шэраг фармальных рэарганізацый філалагічных устаноў? Кажучы словамі булгакаўскага героя, разруха не ў клазетах, а ў галовах...

**“ Ці не самі ж філолагі сталі аўтарамі «сотні лепшых сачыненняў» (хочацца сказаць «чорных соцень») або «кароткіх пераказаў твораў», што павінны замяніць — і замяняюць! — самі мастацкія творы?**

### ЛІТАРАТУРНЫ НІГІЛІЗМ: НАСТУПСТВЫ

Натуральна, што ў час, калі ўнутранае аблічча чалавечай асобы змяняецца і пераемнасць саміх літаратурных традыцый у многім парушана, пачынаюць выяўляцца як скептычныя настроі адносна нацыянальных і гуманістычных маральных вартасцей увогуле, так і пэўны «літаратурны нігілізм». Паспяховасць літаратараў пачынае наўпрост вымярацца фінансавымі паказчыкамі ці непасрэдным «сацыяльным эфектам» па прынцыпе «вясной пасадзіў, увосень выкапаў». Зразумела, што імкненне да непасрэднага эфекту выштурхоўвае літаратуразнаўства на рынак, а задавальненне патрэб апошняга вядзе да разбурэння традыцыі, пра якую мы казалі вышэй. Ці не самі ж філолагі сталі аўтарамі «сотні лепшых сачыненняў» (хочацца сказаць «чорных соцень») або «кароткіх пераказаў твораў», што павінны замяніць — і замяняюць! — самі мастацкія творы?

**“ У сучаснай навуковай супольнасці адсутнічае адзінства ў разуменні звышзадачы навуковай творчасці, ніяк не суадносяцца паміж сабой асобныя метадалагічныя напрамкі, няма адзінай тэрміналогіі... Ды шмат чаго няма! А здольныя літаратары, несумненна, ёсць!**

Зразумела, што ў гэтых умовах акадэмічнае літаратуразнаўства мусіць ісці працаваць над фактаграфічнай базай, каталагізацыяй дадзеных, займацца выдавецкай і тэксталагічнай работай, перакладамі. У Нацыянальнай акадэміі навук працягваецца распрацоўка і выданне збораў твораў народных пісьменнікаў Беларусі Івана Шамякіна ў 23 т. і Івана Навуменкі ў 10 т., серыі «Помнікі даўняга пісьменства Беларусі» (свет пабачылі 2 выпускі), з удзелам акадэмічных літаратараў выдаецца 50-томная «Залатая калекцыя беларускай літаратуры», энцыклапедыі па гісторыі, культуры, мастацтве Беларусі, а таксама ажыццяўляюцца пераклады старажытнабеларускіх твораў на сучасную мову, складаюцца летапісы жыцця і творчасці айчынных пісьменнікаў. Класічны прыклад апошняга — «Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа», складзены М. І. Мушынскім. Гэта — не «кароткі пераказ» біяграфіі. Адно пералічэнне фактаў з жыцця славутага пісьменніка заняло 1227 старонак. Улічваючы, што з часу выдання апошняга тома бібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» прайшло амаль што 20 гадоў — вельмі багатых і неадназначных у літаратурных адносінах, — абнаўленне і перавыданне слоўніка таксама можа ставіцца праз нейкі час на парадак дня.

Але аднаго «пазітывісцкага» падыходу недастаткова для развіцця традыцыі. Каб сарыентавацца ў пераменлівым свеце і раскрыць духоўны патэнцыял прыгожай славеснасці, акадэмічная навука павінна змяніць унутраныя фактары існавання, «пераразмеркаваць» магчымасці і рэзервы ў разуменні і асэнсаванні літаратурнага і, шырэй, культурнага развіцця грамадства.

Гэтаму служаць абнаўленне даследчых метадаў і пашырэнне спектра навуковых тэм. Асаблівая роля тут належыць тэорыі літаратуры. Так, у калектыўным даследаванні «Беларускае тэарэтычнае літаратуразнаўства ў дыялогу культур», якое зараз выконваецца ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы, вядзецца распрацоўка цэласнай тэарэтычнай канцэпцыі аб заканамернасцях і сістэмных сувязях сацыяльна значных падзей, з'яў і фактаў, актуалізаваных у беларускім літаратурным працэсе.

### НОВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

Літаратурны твор заўсёды «ажывае» наноў у свядомасці людзей розных пакаленняў. Таму, з'яўляючыся актам духоўна-эмацыянальнага дыялогу паміж людзьмі розных эпох, помнік мінулага пры кожным новым гістарычным прачытанні выступае ў якасці новага духоўнага ўтварэння. Даследаванне «Мастацкі дыялог класікі і сучаснасці: праблема пісьменніцкага майстэрства, нацыянальнае і агульначалавечае ў сучаснай літаратуры», што ажыццяўляецца ў аддзеле беларускай літаратуры ХХ — ХХІ стст., якраз высвятляе ўзаемадзеянне беларускай літаратурнай традыцыі і нашага агульнанацыянальнага семантычнага культурнага поля. Вывучэнне паэтыкі класікаў беларускай літаратуры, праблем творчай індывідуальнасці пісьменніка, традыцыі і наватарства, само вызначэнне тэарэтычнага зместу паняццяў «інавацыйныя працэсы ў літаратуры», «мадэлі інавацыі» і інш. павінна паслужыць выяўленню асновасутнасных момантаў у спасціжэнні асаблівасцей мастацкага адлюстравання беларускага нацыянальнага характару.

У сучасным свеце, дзе культурныя, геаграфічныя і моўныя бар'еры ў многім пераадоленыя, надзвычай важна асэнсаваць літаратурныя сувязі і ўплывы. Вядома, любы літаратурны ўплыў звязваецца з частковай трансфармацыяй запазычанага ўзору, з яго перапрацоўкай у адпаведнасці з нацыянальным развіццём і традыцыямі, а таксама творчай індывідуальнасцю пісьменніка. Пытанні літаратурнай кампаратывістыкі знаходзяць адлюстраванне ў тэме «Нацыянальныя тыпы ментальнасці ў беларускай і еўрапейскай літаратурах: ідэйна-эстэтычная спецыфіка, стылявая эвалюцыя, перакладчыцкая інтэрпрэтацыя». У межах даследавання праводзіцца распрацоўка сістэмна-модульных асноў і ідэйна-эстэтычнай спецыфікі нацыянальных тыпаў ментальнасці як вядучых духоўна-сацыяльных феноменаў у беларускай і еўрапейскіх літаратурах.

У падтрыманні і захаванні нацыянальнай свядомасці і нацыянальнай адметнасці народа асаблівае месца займае літаратурная спадчына. Навуковыя распрацоўкі, што ажыццяўляюцца спецыялістамі па гісторыі старажытнай літаратуры пры выкананні тэмы «Гісторыя беларускай літаратуры ў кантэксце еўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу: дыялектыка мастацкага развіцця, фенаменалогія, герменеўтыка, гістарычная паэтыка», спрыяюць актуалізацыі ў сучаснай культуры тых духоўных каштоўнасцей, якія выпрацаваны беларускім народам у ходзе шматвяковага гістарычнага развіцця.

Сумяшчэнне індывідуальных і калектыўных даследчых тэм з тэксталагічна-выдавецкай практыкай, а таксама і шырокі ахоп літаратурных з'яў і працэсаў у пэўнай ступені дапамагаюць захаваць літаратуразнаўчую традыцыю. Пастаянная ўвага да пытанняў тэорыі і гісторыі літаратуры не дае забыцца на значнасць акадэмічнай навукі для літаратурнага працэсу. Разам з тым, выхад літаратуразнаўства на новы ўзровень бачыцца ў пашырэнні літаратуразнаўчага сегмента ў інтэрнэт, што з'яўляецца і дзяржаўнай задачай.

**Сяргей ГАРАНІН,**
**намеснік дырэктара Інстытута мовы і літаратуры па навуковай рабоце**

# Той самы Баханькоў

Арцёму Яфімавічу Баханькову, навукоўцу, чыё імя хоць раз у жыцці бачыў кожны школьнік — перадусім, на вокладцы тлумачальнага слоўніка, — сёлета споўнілася б 80 гадоў. Карэспандэнт «ЛіМа» сустрэлася з сынам слыннага даследчыка Аляксандрам Баханьковым. Ён таксама навукоўца — кандыдат фізіка-матэматычных навук. Спадар Аляксандр распавёў, якім чалавекам быў «той самы Баханькоў».

**— Вядома, што ўжо ў 17 гадоў Арцём Яфімавіч быў дырэктарам школы...**

— У 1940 годзе яго прызначылі дырэктарам Бікульніцкай пачатковай школы. Нічога дзіўнага тут няма, бо перад вайной педагагічных кадраў было мала. Дзяцей вучыць няма каму, а ён на той час скончыў Полацкі педагагічны тэхнікум. На ўсю школу было тры настаўнікі.

**— Юнаком ён узначаліў школу, потым прайшоў вайну, атрымаўшы два медалі і тры раненні. У чалавека мусіць быць вельмі моцны характар, каб усё гэта выцягнуць.**

— О так, у яго быў вельмі моцны характар. Але ў адносінах да сям'і гэта ніяк не выяўлялася. Некалькі разоў, калі я апынаўся ў неадназначным становішчы, ён казаў мне: рабі так, як належыць мужчыну. А ў доме заўжды было ціха, добра, спакойна, ніколі я не чуў лаянкі. Канечне, як у кожнай сям'і, здараліся невялікія рознагалоссі, але не болей за тое. Маме, напрыклад, вельмі не падабалася, што ён шмат паліць. А паліў ён сапраўды шмат. Гэтая звычка засталася з ім яшчэ з вайны. Зрэшты, пра той час ён не любіў распавядаць, стараўся не глядзець ваенныя фільмы.

**— Калі ваша сям'я перабралася ў Мінск, ці часта вярталіся на радзіму?**

— Канечне, выязджалі і ў Саламір'е, і ў вёску Гомель, што кіламетраў за дзесяць ад яе. Памятаю, бацька вельмі любіў грыбы збіраць: вырас у лясным краі. А яшчэ — вудзіць рыбу. Быў у нас некалі такі здымак, дзе бацька трымае шчупака за галаву, і хвост гэтай рыбіны дастае да зямлі. У тую раніцу ён пайшоў на шпацыр з ружжом (паляванне, праўда, не любіў, бо не мог стрэліць у жывога звера). І вось распавядае: «Іду я ўздоўж ракі, гляджу — нейкае бервяно ляжыць. Прыглядзеўся — яшчэ і варушыцца. Узяў і стрэльнуў. Усплывае шчупак...» З'есці яго так і не змаглі, бо шчупак быў вельмі стары, прапах балотам. Але фотакартка захоўвалася доўгі час. Дзе падзелася — не ведаю.


*Арцём Яфімавіч Баханькоў з жонкай Валянцінай Усцінаўнай і дзецьмі Аляксандрам і Людмілай.*

Калі мы прыязджалі на вёску, мяне вось што дзівіла: людзі да яго ішлі не як да сталічнага госця — як да аднавяскоўца. «Арцём, прывітанне! Такая справа, давай абмяркуем...» Ён быў цалкам свой. Яго паважалі і, можна сказаць, любілі. У бацькі ніколі не было нядобразычліўцаў, тым больш — ворагаў. Памятаю адзін выпадак, які стаў для мяне ўрокам на ўсё жыццё. Звычайна ўвосень мы разам з бацькам хадзілі на Камароўскі рынак па яблыкі. Аднойчы вяртаемся дадому і ён спыняецца каля нейкай бабулькі, купляе ў яе дзічкі. А ў нас і так ужо сетка антонавак. Я пытаюся: нашто табе гэтыя горкія дзічкі? Ён павярнуўся да мяне і спакойна адказаў: «Паглядзі на гэтую жанчыну. Можа, у яе няма грошай на хлеб і прадаць няма чаго. Яна назбірала гэтых яблыкаў і прывезла сюды, каб зарабіць хоць якую капейку». Пасля гэтага я пачаў лепей ставіцца да людзей.

**— А стасункі з мінскімі коламі? Скажам, з творчай інтэлігенцыяй ці калегамі?**

— У нашым пад'ездзе на першым паверсе жыў Іван Чыгрынаў. Сышліся яны, відаць, таму, што мая маці і жонка Чыгрынава — з адной вёскі. Бывала, прыязджаем, а бабуля кажа: «Чыгрынаў ужо тут». Недалёка, на Сурганава, жыў Алесь Адамовіч. Я сябраваў з яго дачкой Наташай.

**— Ці можаце сказаць, хто быў самым блізкім сябрам Арцёма Яфімавіча?**

— У Мінску жыў яшчэ адзін Баханькоў — Фёдар Ігнатавіч, аднавясковец. Ён быў частым госцем. Добрыя стасункі былі са Сцяпанам Грабчыкавым, калегам. Часам ён прыходзіў папрацаваць над слоўнікам, рэдактарам якога быў бацька, і ў мяне тады склалася ўражанне, што яны і па духу даволі блізкія.

**— Арцём Яфімавіч распавядаў пра сваю працу дома? Ці проста замыкаўся ў кабінеце, сам-насам з паперамі?**

— Хутчэй, другое. Пра навуковую працу былі хіба кароткія размовы з маці. Але некаторыя імёны калег называў. Аднойчы ён павёў мяне на сваю працу. Ідзём, нехта з ім павітаўся, падаў руку... Мне падалося, што гэтага чалавека я недзе бачыў. Дома высветлілася: Лынькоў! Памятаю таксама, як яны размаўлялі з Крапівой.

**— І якое ўражанне пакінуў Крапіва?**

— Вашае пытанне можна інтэрпрэтаваць так: якое ўражанне можа пакінуць цар?

**— У Арцёма Яфімавіча была вялікая хатняя бібліятэка?**

— Не дужа: тры шафы. Памятаю шматтомнік Даля, слоўнік Ожагава. На пачэсным месцы стаяла кніга бабулі, якая яму дасталася ад маці, — Псалтыр дарэвалюцыйнага выдання Кіева-Пячэрскай лаўры. Напрыканцы 1990-х гадоў гэтая кніга перайшла да мяне. Я ведаю ёй цану і таму пайшоў у царкву, дзе мяне хрысцілі, запытаўся, ці прымуць яны «Псалтыр» у дар. Але святар адказаў, што такія кнігі нельга аддаваць нікому: калі яна з'явілася ў доме, то гэта воля зверху.

Ён выпісваў дзве газеты — «Звязду» і «ЛіМ». Першую — бо як камуніст быў абавязаны. А «ЛіМ» — для душы: газета яму вельмі падабалася, колькі разоў ён сам у ёй друкаваўся.

На бацькавым стале заўсёды ляжалі дзве кнігі: тоўсты зялёны том, на карэньчыку якога залатымі літарамі было напісана «Карскі», і «Гісторыя Беларусі» Ластоўскага. Памятаю, калі я пачаў гэтым цікавіцца, бацька сказаў: «Калі хочаш ведаць сапраўдную гісторыю Радзімы, чытай Ластоўскага». Яна і дагэтуль у мяне захоўваецца. Акрамя іх на стале месціліся маленькія скрыначкі з карткамі. Бацька прыходзіў з інстытута, сядаў за свой стол і пачынаў працу — дапазна, і ў працоўныя дні, і ў выхадныя.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Яго партрэт у лічбах

Арцём Яфімавіч Баханькоў нарадзіўся 29 студзеня 1924 года ў вёсцы Саламір'е Полацкага раёна. У 1941 годзе, закончыўшы школу, быў вымушаны ўступіць у партызанскі атрад, а потым далучыцца да байцоў Чырвонай арміі і змагацца з ворагам ужо на тэрыторыі Прыбалтыкі. За баявыя заслугі ён быў узнагароджаны медалямі і ордэнам Айчыннай вайны.

Пасля вайны А. Баханькоў закончыў Полацкі педтэхнікум і Мінскі педінстытут, пасля чаго настаўнічаў у Полацкім раёне. Праз некаторы час паступае ў аспірантуру пры Мінскім педагагічным інстытуце. У час навучання ў аспірантуры А. Баханькоў даследаваў рэгіён брэсцка-пінскага Палесся, дзе зафіксаваў і сістэматызаваў вялікую колькасць моўнага матэрыялу датычна сінтаксічных канструкцый. Гэты аналіз выліўся ў кандыдацкую дысертацыю «Складаназалежны сказ у паўднёва-заходніх беларускіх гаворках», якую навуковец абараніў у 1961 годзе.

У 1960 — 1992 гадах А. Баханькоў працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі. Асабліва плённымі былі 1960 — 1984 гады, калі ён быў укладальнікам, членам рэдкалегіі і рэдактарам 2-га тома пяцітомнага акадэмічнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (1977 — 1984). Таксама А. Баханькоў з'яўляецца суаўтарам акадэмічнага «Беларуска-рускага слоўніка» (т. 1 — 2 ; 1988 — 1989).

У 1982 годзе выйшла з друку манаграфія А. Баханькова «Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд: Сацыялінгвістычны нарыс». Манаграфія з'явілася базай для доктарскай дысертацыі (1985).

Арцём Яфімавіч з'яўляецца ініцыятарам і арганізатарам падрыхтоўкі калектыўнай манаграфіі «Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы». Гэта салідная праца выйшла ў свет у 1994 годзе пад яго навуковай рэдакцыяй. Для манаграфіі ён напісаў пяць навуковых раздзелаў, а таксама ўступную частку і «Заключэнне». А. Баханькоў з'яўляецца суаўтарам і адным з навуковых рэдактараў яшчэ адной акадэмічнай манаграфіі — «Гістарычнай лексікалогіі беларускай мовы» (1970), для якой ён падрыхтаваў раздзел «Змяненне лексікі беларускай мовы ў савецкі перыяд». «Сінтаксіс скарынінскіх выданняў», напісаны навукоўцам, увайшоў у калектыўную акадэмічную манаграфію «450 год беларускага кнігадрукавання» (1968).

Арцём Яфімавіч шмат працаваў у галіне вучэбнай лексікаграфіі. Так, у суаўтарстве з Іосіфам Гайдукевічам і Паўлам Шубам ён падрыхтаваў «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: Для сярэдняй школы» (1966), які чатыры разы перавыдаваўся. Гэта ж аўтары падрыхтавалі «Толковый словарь русского языка: для средней школы» (1975; 2-е выд. — 1985; 3-е выд. — 1995). Пазней А. Баханькоў, І. Гайдукевіч і П. Шуба падрыхтавалі і выдалі «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: Каля 7800 найбольш распаўсюджаных слоў і выразаў» (1998; 2-е выд. — 2000; 3-е выд. — 2006).

З 1992 года Арцём Яфімавіч працаваў загадчыкам кафедры беларускай мовы пры прэзідыуме АН Беларусі. Ён арганізаваў і сфарміраваў склад кафедры, куды ўвайшлі такія спецыялісты, як доктар філалагічных навук А. С. Аксамітаў, кандыдаты філалагічных навук Т. П. Бандарэнка, Г. Ф. Вештарт, Т. В. Кузьмянкова і інш. У 1995 годзе А. Баханькову прысвоена вучонае званне прафесара.

Доктар філалагічных навук, прафесар А. Я. Баханькоў шырока даследаваў лексіку беларускай мовы, дыялекталогію, гісторыю беларускай мовы, агульныя пытанні лексікалогіі і лексікаграфіі, займаўся праблемамі культуры беларускай мовы, апублікаваў шмат прац энцыклапедычнага характару і рэцэнзій на працы калег. Усяго прафесар Баханькоў мае каля ста публікацый.

На вялікі жаль, многае задуманае прафесарам Баханьковым здзейснілася не да канца. Застаўся толькі ў картатэчным выглядзе «Слоўнік Полаччыны», які ён рыхтаваў разам з членам-карэспандэнтам НАН Беларусі М. Р. Суднікам. Не да канца сістэматызаванымі і прааналізаванымі засталіся матэрыялы неалагізмаў беларускай мовы, сабраныя А. Баханьковым: больш як дваццаць пяць тысяч лексічных адзінак.

Пайшоў з зямнога жыцця Арцём Яфімавіч Баханькоў 12 жніўня 2001 года.

**Мікалай КРЫЎКО**

*ЛіМаГрафія*

# Ліст да аўтараў



Калі вы чытаеце гэтыя радкі, значыць, купляеце ці выпісваеце нашае выданне, а гэта, у сваю чаргу, сведчыць пра тое, што вы яго любіце. Магчыма нават, што час ад часу пішаце для «Ліма». Менавіта вам, шаноўныя нашы аўтары — цяперашнія і магчымыя, — адрасаваны гэты ліст.

Цудоўна, што вы стараецеся спрычыніцца да газетнай справы. Аднак калі нешта рабіць, то рабіць добра, ці не так?

Таму я прапаную вам некалькі рэкамендацый, на якія, спадзяюся, звернеце ўвагу і якіх будзеце прытрымлівацца.

**1.** «Літаратура і мастацтва» — газета, як вы маглі заўважыць. Не зборнік навуковых артыкулаў, не інтэрнэтпляцоўка, дзе змяшчаюць уражанні ад кніг ці прэзентацый. Што гэта значыць? Па-першае, тое, што стыль выдання — публіцыстычны. Не трэба сыпаць у артыкулах навуковымі тэрмінамі адно для таго, каб падавацца дасведчаным. Не трэба будаваць канструкцыі, ад якіх чытач пачне адчуваць сябе невукам, а рэдактару аддзела захочацца «палезці на сцяну». Калі вы не можаце патлумачыць сваю пазіцыю ці выкласці думку простымі словамі, упэўніцеся, што вы самі яе разумееце. Бо часам пад псеўданавуковымі карункамі хаваецца пустата. Па-другое, калі вельмі хочацца распавесці пра ўпадабаную кнігу, старайцеся выліць гэта ў форму рэцэнзіі, а не школьнага сачынення. Ёсць цудоўныя працы Барыса Стральцова і Ефрасінні Бондаравай па жанрах публіцыстыкі і крытыкі, калі ласка, азнаёмцеся з імі.

**2.** «Літаратура і мастацтва», акрамя таго, не філіял ААТ «Юбілей». Штогод адзначаецца ці не сотня круглых дат, і калі пісаць пра іх усе, узнікне пытанне: а жыць калі? Калі ж вы берацеся пісаць пра юбіляра, не трэба распавядаць у тысячны раз, што ён нарадзіўся ў вёсачцы N. у беднай сялянскай сям'і ў 19.. годзе. Адшукайце цікавыя факты, а калі не маеце такой магчымасці, паспрабуйце даць новы погляд на творчасць ці хоць бы сваё ўражанне ад яе. Юбілейны артыкул павінен быць цікавым, інакш ад яго няма ніякай карысці.

**3.** Пясняр беларускай зямлі, родны куток, прыгажосць роднай зямлі, волат нашай паэзіі, сапраўдны паэт — нельга не працытаваць гэтыя натхнёныя словы. Не пішыце так. Паверце, гэта выглядае смешна.

**4.** Не ляніцеся падумаць над загалоўкам. Ён павінен быць прывязаны да тэксту, менавіта да аднаго канкрэтнага тэксту, але не ахопліваць неабсяжнае. Загалоўкі тыпу «Уклад у навуку», «Сейбіт і творца», «Ушанавалі класіка» і падобныя да іх — няўдалыя. Іх можна падставіць да любога матэрыялу, а значыць — да ніякага.

**5.** Калі вы напісалі тэкст, які адпавядае першым чатыром пунктам, будзьце ласкавыя адшукаць да яго ілюстрацыі (падказка: гэта можа быць партрэт героя або адсканіраваная вокладка кнігі). Калі тэкст вялікі, разбіце яго на часткі і да кожнай прыдумайце падзагаловак. Ад гэтага ваш матэрыял толькі выйграе.

Дзякуй, што прачыталі гэты ліст. Спадзяюся, ён пойдзе на карысць вам і разам з тым — нашаму выданню. Поспехаў!

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Гартаем слоўнікі

Многіх беларусаў сёння цікавіць праблема варыятыўнасці напісання і вымаўлення. Правільная моўная практыка надзвычай важная для тых, хто ў прафесійнай дзейнасці мае справу з вуснай і пісьмовай формамі літаратурнай мовы, — настаўнікаў, выкладчыкаў, рэдакцыйна-выдавецкіх работнікаў, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. Узнікае пытанне: як жа максімальна ўдасканаліць пісьмо і вымаўленне, наблізіць іх да ўзорнага? Тут не абысціся без навукі.

Айчынная лінгвістыка чуйна рэагуе на запатрабаванні часу і прапануе працы, якія грунтуюцца на ўстойлівых правілах і адначасова ўлічваюць найноўшыя тэндэнцыі і з'явы. Чарговы крок у гэтым напрамку — комплекс лексікаграфічных выданняў, падрыхтаваны мовазнаўцамі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Гаворка ідзе пра «Граматычны слоўнік дзеяслова», «Граматычны слоўнік назоўніка» і «Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя».

Названыя лексікаграфічныя крыніцы найбольш поўна і паслядоўна адлюстроўваюць сучаснае словазмяненне ўсіх знамянальных часцін мовы, што стабілізуе правапісныя нормы. Трэба адзначыць, што гэта другое выданне комплексу слоўнікаў, зробленае ў адпаведнасці з новымі «Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мінск, 2008). Так здымаецца вялікі комплекс праблем, звязаных са зближэннем арфаграфічных навыкаў з уласна моўнымі (перш за ўсё граматычнымі) ведамі носьбітаў беларускай літаратурнай мовы.

Ідэя склалсці выданні, якія дапамагалі б стваральнікам вучэбнай і даведачнай літаратуры і забяспечвалі аднастайнае выкарыстанне моўных сродкаў у працэсе навучання ў вышэйшай і сярэдняй школе, у друку, дзелавой перапісцы, належыць акадэміку Аляксандру Іосіфавічу Падлужнаму. Светлай памяці вядомага лінгвіста і прысвечана выданне. У яго асобе беларуская мовазнаўчая навука панесла цяжкую страту. Багатая і шматгранная спадчына акадэміка А. І. Падлужнага высока цэніцца сучаснымі лінгвістамі. Таму асабліва прыемна адзначыць, што менавіта намаганнямі паслядоўнікаў і вучняў А. І. Падлужнага ўдалося рэалізаваць навуковую задуму вучонага. І разам з тым — даць беларусам зручныя дапаможнікі, аналагаў якім пакуль яшчэ не існуе ў славянскім мовазнаўстве. Навуковым рэдактарам выданняў з'яўляецца вучаніца Аляксандра Іосіфавіча, доктар філалагічных навук В. П. Русак.

Тры граматычныя слоўнікі-даведнікі, якія летась выйшлі ў выдавецтве «Беларуская навука», маюць аднатыпную падачу матэрыялу. Слоўнікавыя артыкулы даюць граматычную характарыстыку часцін мовы і поўную парадыгму словазмянення. Ва ўсіх загалоўных словах і ў формах словазмянення ўказваецца націск, акрамя аднаскладовых і слоў, у якіх націск падае на арфаграфічнае *ё*. Ва ўступных артыкулах да пэўнай часціны мовы прыводзіцца шырокі тэарэтычны матэрыял, у якім асвятляюцца асноўныя пытанні марфалогіі.

Выданні адрасуюцца самаму шырокаму колу чытачоў: настаўнікам і вучням, выкладчыкам і студэнтам, а таксама і ўсім, хто карыстаецца беларускай мовай.

**Васіль СТАРЫЧОНАК, прафесар**




***Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя* Укладальнікі Н. П. Еўсіевіч, В. П. Русак, Л. П. Кунцэвіч, В. М. Нікалаева.**

*Змяшчае 30 тысяч прыметнікаў, усе асноўныя займеннікі, лічэбнікі і прыслоўі. Словазменныя часціны мовы прыведзены з поўнымі парадыгмамі граматычных форм.*




***Граматычны слоўнік назоўніка* Укладальнікі: Г. У Арашонкава, В. П. Русак, А. М. Астапчук, В. І. Уласевіч, Н. А. Чабатар.**

*Змяшчае каля 50 тысяч назоўнікаў з поўнай парадыгмай змянення па склонах, родах і ліках. Гэта самы поўны даведнік па формазмяненні назоўніка. У адпаведным слоўнікавым артыкуле можна знайсці ўсю патрэбную інфармацыю пра той ці іншы назоўнік. Пасля граматычных памет падаецца поўная парадыгма назоўніка. Калі канчаткі ў пэўных склонах супадаюць, яны прыводзяцца разам (ДМ анкеце).*




***Граматычны слоўнік дзеяслова* Укладальнікі: В. П. Русак, Л. А. Ліхадзіеўская, Н. П. Еўсіевіч, А. А. Кірдун.**

*Змяшчае каля 34 тысяч дзеясловаў. У аснову рэестра слоўніка пакладзены дзеясловы ва ўсёй шматграннасці яго форм, значэнняў і словазмянення ў мове. Асноўнае прызначэнне слоўніка — адлюстраваць сучаснае словазмяненне дзеяслова, даць поўную сістэму яго марфалагічных форм. Усю граматычную інфармацыю змяшчаюць артыкулы з рэестравым словам-дзеясловам, для якога падаюцца формы цяперашняга і прошлага часу, загаднага ладу, дзеепрыметнікаў незалежнага і залежнага стану, дзеепрыслоўяў.*

*Практыкум*

# Па-беларуску правільна

## ХОЦЬ ПАМЫЛКІ І ЧАСТКА НАШАГА ЖЫЦЦЯ, У ТЭКСТАХ ІХ ЛЕПШ ПАЗБЯГАЦЬ

Ледзь не першае месца сярод парушэнняў норм беларускай мовы займаюць калькі з рускай: *Пры аплаце паслуг з дапамогай банкаўскіх пластыкавых картак загадзя папярэджвайце аператара сувязі* (аддзяленне сувязі № 137); *Пры аплаце паслуг пасродкам банкаўскіх пластыкавых картак загадзя папярэджвайце аператара сувязі* (аддзяленне сувязі № 46). У абодвух прыкладах відавочна, што аўтары абвестак проста пераклалі ўжо існуючыя рускамоўныя адпаведнікі. А трэба было б ужыць выраз *пры дапамозе*, натуральны для беларускай мовы.

Другое месца ў нашым «чорным спісе» — за дзеепрыслоўнымі канструкцыямі. Маючы столькі тэкстаў пра мінулае (штогод у Беларусі выдаецца як мінімум два бліскучыя гістарычныя раманы), мы не засяляем літаратурную сучаснасць. Тут маем тое ж калькаванне, але ўжо цэлых канструкцый. Каб пазбегнуць стылёвых хібаў, сказы павінны быць пабудаваны наступным чынам: *Пры такой колькасці тэкстаў пра мінулае... мы не засяляем літаратурную сучаснасць.*

Асабліва грашаць бяздумным калькаваннем перакладныя інструкцыі па эксплуатацыі бытавой тэхнікі. Возьмем звычайны тостар. У інструкцыі да яго чытаем: *Перад уключэннем упэўніцеся (рус. убедитесь), што напружанне электрычнай сеткі адпавядае працоўнаму напружанню тостэру* (перад уключэннем праверце, ці адпавядае напружанне электрычнай сеткі працоўнаму напружанню тостара); *Не ўсталёўвайце тостэр паблізу (рус. вблизи) сцен, пакрытых шпалерамі* (побач, каля); *Пры прадаўжальным (рус. продолжительном) падсмажванні тосты могуць загарэцца* (пры працяглым); *Каб пазбегнуць рызыкі загарання (рус. риска возгорания)* (рызыкі ўзнікнення пажару); *Ніколі не спрабуйце выцягнуць заціснутыя тосты з уключанага тостэру... так як (рус. так как) сутыкненне металічнага прадмету з награвальным элементам... можа стаць прычынай электрашоку* (бо); *У гэтым рэжыме тосты можна падагрэць без дапаўняльнага (рус. дополнительного) падсмажвання* (без дадатковага падсмажвання); *Па сканчэнні (рус. по окончании) ўстаноўленага часу падагрэву тостэр аўтаматычна выключыцца* (калі ўстаноўлены час падагрэву скончыцца, тостар аўтаматычна выключыцца).

> **У шматлікіх выпадках стваральнікі тэксту не тое што не клапоцяцца пра пісьменнасць, а наогул не ўспрымаюць памылковыя напісанні як памылковыя. Тлумачыцца гэта найперш нізкім агульным узроўнем валодання беларускай мовай, што, у сваю чаргу, выклікана звужэннем сферы яе выкарыстання.**

Безумоўна, той факт, што беларускі варыянт наогул прысутнічае ў тэксце інструкцыі прыбора, выраблената ў Кітаі, не можа не радаваць. Аднак гэта не азначае, што можна заплюшчыць вочы на парушэнне норм беларускай мовы. Нават сама назва мовы пададзена з памылкай: *Беларускі.*

Нельга не звярнуць увагу на лексічныя памылкі.

У інтэрнэт-версіі газеты «Звязда» знаходзім загаловак: *«Жыву ў Паволжы, а працоўная кніжка ў мяне дагэтуль двухмоўная».* Як вядома, у ж. р. лічэбнік *два* мае форму *дзве*, таму працоўная кніжка, безумоўна, *дзвюхмоўная*.

*Паломнікі ўжо зараз заязджаюць сюды — каб набыць ваду ды масла, асвечанае на магіле святой Валянціны Мінскай.* Масла — 1. Харчовы тлушч, які атрымліваюць збіваннем смятанкі або смятаны. 2. Тлустае рэчыва, якое здабываюць з мінеральных рэчываў. (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. 3, Мн., 1979). Алей — 1. Тлушч з расліннага насення: канапляната, макавага, ільнянога, гарчычнага, сланечнікавага і пад. 2. Аліўкавы тлушч, які выкарыстоўваецца ў царкоўным абыходку; ялей (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. 1, Мн., 1977). Менавіта алей набываюць у святых мясцінах, ніяк не масла.

*Плюс ёсць тэндэнцыя росту даходаў насельніцтва, тэндэнцыя актыўнай працы друкаванага станка.* Канечне ж, станок *друкарскі*, памылка абумоўленая ўплывам рускай мовы — *печатный станок.*

*Зараз у «чырвоны» калідор патрапляюць аўтатранспартныя сродкі па пяці асноўных крытэрах.* Лексема *зараз* паказвае на тое, што дзеянне адбываецца ў цяперашнім часе, таму тут слушна было б ужыць дзеяслоў у форме *трапляюць.*

*Усё гэта кладзецца ў чамадан... і па вяртанні ў «сінявокую» — калі ласка, «чырвоны» калідор і пільны мытны нагляд; Калі ёсць у багажніку заплечнік — калі ласка, на дагляд.* Гэтыя два прыклады яскрава дэманструюць кепскае веданне лексікі беларускай мовы, бо лексема *нагляд* мае наступныя значэнні: 1. Назіранне за кім-, чым-н. для аховы, кантролю, вывучэння і г. д. 2. Догляд, клопат. 3. *З азначэннем* Група асоб, якая ажыццяўляе назіранне з мэтай аховы, кантролю і г. д. [Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. 3, Мн., 1979]. Слова *дагляд* ужываецца ў значэнні «клопат, нагляд», прычым *дагляд* слоўнікам падаецца з паметай *размоўнае.* Літаратурнае слова *догляд* [Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. 2, Мн., 1978]. І ў першым, і ў другім выпадку патрэбная лексема *агляд* у значэнні «абследаванне якога-н. аб'екта для выяўлення або праверкі яго стану» [Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. 1, Мн., 1977].

*Але гэтаму паспрыялі жарты саміх падазраваных-сведкаў-ініцыятараў стварэння СМІ, бо, калі іх пыталіся, хто іх фінансуе і з кім яны супрацоўнічаюць, яны часцяком адказвалі, што іх «вядуць» ЦРУ і Масад.* Тут трэба было пісаць ці *ў іх пыталіся*, ці *іх распытвалі.*

Як бачым, у шматлікіх выпадках стваральнікі тэксту не тое што не клапоцяцца пра пісьменнасць, а наогул не ўспрымаюць памылковыя напісанні як памылковыя. Тлумачыцца гэта найперш нізкім агульным узроўнем валодання беларускай мовай, што, у сваю чаргу, выклікана звужэннем сферы яе выкарыстання. Большасць арганізацый вядуць справаводства па-руску, навучанне ў школах, каледжах і ВНУ ажыццяўляецца пераважна на рускай мове, нават навіны на беларускім тэлебачанні выходзяць па-руску. Так мы выходзім на непараўнальна большую, чым няправільнае напісанне асобных слоў, праблему — нізкую нацыянальную самаацэнку і адсутнасць трывалых ведаў пра гістарычныя карані. І стварыць спецыяльныя курсы беларускай мовы — найменшае, што мы можам зрабіць.

**Наталля ПЕРАВАЛАВА**



# Кніжны свет

24 студзеня 2014 г.

*Рарытэты*

# Кухарка? Гаспадыня!

Летась у выдавецтве «Харвест» у перакладзе на беларускую мову пабачыла свет кніга Вінцэнты Завадскай «Літоўская кухарка». Яна ў многіх адразу ж выклікала асацыяцыю яшчэ з адной вельмі каштоўнай для нас кнігай — «Літоўскай гаспадыняй», новае выданне якой у перакладзе на беларускую мову выйшла ў нашай краіне на год раней, у 2012-м (выдавецтва «Беларусь»).



Фота Кастуся Дробава

Пагадзіцеся, нават іх назвы вельмі лёгка пераблытаць, больш за тое, першапачаткова абедзве працы, прысвечаныя адметнасцям вядзення хатняй гаспадаркі, выходзілі ў тым жа самым віленскім выдавецтве, што належала Адаму Завадскаму. А жонку выдаўца Вінцэнту (ці Вінцэнціну) некаторы час нават лічылі аўтаркай абедзвюх кніг. Гутарка з доктарам філалагічных навук, вядомым даследчыкам Адамам Мальдзісам, які калісьці стаў адкрывальнікам «Літоўскай гаспадыні», дазволіла нам, як кажуць, расставіць усе кропкі над «і» і скончыць блытаніну з назвамі.

Гісторыя гэтай незвычайнай і каштоўнай знаходкі, як распавёў Адам Восіпавіч, наступная: «Неяк у 1970 годзе я чытаў лекцыю ў Магілёўскай абласной бібліятэцы. Пасля мяне папрасілі паглядзець і вызначыць каштоўнасць польскіх кніг, якія стаялі ў запасніках. А калі работа была закончана, дазволілі як «ганарар» узяць нешта з дублетаў. Выбар мой паў на «Літоўскую гаспадыню», бо, па-першае, я разумеў, што пад словам «літоўскі» тут хаваецца беларускі падтэкст, па-другое, у нашых бібліятэках яна мне не сустракалася. Чаму? Мабыць, таму, што пры частым ужытку зачытвалася тымі ж гаспадынямі «да дзірак», а вучоныя мужы, якім раней было даверана камплектаванне бібліятэк, лічылі выданне занадта «несур'ёзным», каб захоўваць для нашчадкаў».

Кнігай адразу ж зацікавіўся Уладзімір Караткевіч. Ён выпісаў некалькі рэцэптаў, а таксама папрасіў сябра даведацца, хто ж быў аўтарам гэтай выдатнай кнігі. Адам Восіпавіч спачатку шукаў у паперах выдаўца Завадскага, у віленскіх зборах. Але безвынікова. І толькі выпадак дапамог знайсці адказ. У артыкуле «Сілуэты жанчын з-над Нёмана, Дняпра і Дзвіны», апублікаваным у газеце «Дзеннік Віленьскі» ў 1906 годзе, беларускі пісьменнік і краязнаўца Аляксандр Ельскі згадаў Ганну Цюндзявіцкую. Ён адзначаў, што яна была аўтаркай выдадзенай ананімна «Літоўскай гаспадыні», а таксама падрыхтавала да друку «Гаспадарчы штогоднік» (Вільня, 1854, 1861). Яшчэ больш падрабязнае даследаванне прывяло да новага адкрыцця. Ганна была жонкай маршалка шляхты Барысаўскага павета і маці артылерыйскага прапаршчыка Міхаіла Цюндзявіцкага.

— Дарэчы, Цюндзявіцкі быў першай ахвярай Мураўёва, яго расстралялі на развілцы двух трактаў, Койданаўскага і Ігуменскага. Гэта прыкладна там, дзе сёння знаходзіцца гасцініца «Мінск», — зазначае Адам Мальдзіс.

Вядома, што ўпершыню «Літоўская гаспадыня» выйшла ў 1852 годзе. А праз два гады, у 1954-м, пабачыла свет і надзвычай папулярная «Літоўская кухарка» Вінцэнты Завадскай. Напэўна, аўтаркі гэтых кніг сябравалі: іх працы выйшлі ў адным выдавецтве, ды і па змесце яны перагукаюцца, «кухарка» крыху паўтарае кулінарную частку «гаспадыні». Магчыма, выдаўцу Адаму Завадскаму поспех «Літоўскай гаспадыні» падказаў ідэю новага выдання. Натуральна, што за рэалізацыю гэтага праекта ўзялася яго жонка і таксама напісала сапраўдны бестселер, сабраўшы актуальныя на той час рэцэпты. Дарэчы, арыгінал «Літоўскай кухаркі» трапіў у Беларусь аж з Вялікабрытаніі, з Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане, а сама ідэя перакладу належыць айцу Аляксандру Надсану. Сучаснае выданне гэтай кулінарнай кнігі прыйшлося надзвычай да часу: сёння нацыянальная кухня ўсё больш і больш папулярная ў беларусаў. І гаспадыням хочацца гатаваць стравы, якімі ласаваліся нашы продкі шмат гадоў таму.



GOSPODYNI
LITEWSKA
CZYLI
NAUKA UTRZYMYWANIA PORZĄDNIE
DOMU
I ZAOPATRZENIA GO WE WSZYSTKIE PRZYPRAWY, ZAPASY
KUCHENNE, APTECZKOWE I GOSPODARSKIE.
TUDZIEŻ
HODOWANIA I UTRZYMYWANIA BYDŁA, PTASTWA
I INNYCH ŻYWIOŁÓW,
według sposobów wyprobowańszych i najdoświadczeńszych,
a razem najtańszych i najprostszych.
Wydanie czwarte, poprawne i pomnożone różnemi przepisami
przez Autorkę Kucharki Litewskiej.
WILNO.
DRUKIEM JÓZEFA ZAWADZKIEGO.
1858.

Але вернемся да «гаспадыні». Тут узнікае іншае пытанне: чаму «Літоўская гаспадыня» выйшла ананімна і яе аўтарка пажадала застацца невядомай? Напэўна, таму, што ў той час для жанчыны быць пісьменніцай, літаратаркай лічылася непрыстойным. Асабліва калі яна — жонка маршалка павятовай шляхты, паважаная гаспадыня і маці. Сёння ж кніга Ганны Цюндзявіцкай дазваляе нам папоўніць і вельмі скупыя звесткі пра асобу яе аўтаркі. Як зазначае Адам Восіпавіч, «Ганна Цюндзявіцкая не хавала свайго асабістага «я», свайго густу, сімпатый і антыпатый. Найперш яна абапіралася не на чужыя друкаваныя крыніцы (хоць выкарыстоўвала і іх), а на ўласны досвед, таксама і досвед сваіх бацькоў, суседзяў, мясцовых сялян. Яна, несумненна, стала б вучоным у галіне аграноміі, заатэхніі ці медыцыны — вядома, што яе твор пра лячэнне сялян так і застаўся ў рукапісе. Веды яе былі шматгранныя, энцыклапедычныя. Яна выкарыстоўвае рускія, украінскія, польскія крыніцы, побач з мясцовымі назвамі раслін прыводзіць лацінскія. Правяраючы той або іншы варыянт, аналітычна супастаўляе з'явы, праводзіць, па сутнасці, эксперыменты». Больш за тое, у польскім тэксце кнігі час ад часу трапляюцца беларусізмы, а сама аўтарка з павагай ставіцца да сялян, найперш дбае пра грамадскае, а ўжо потым — пра асабістае.

Думаецца, беларускамоўнае выданне «Літоўскай гаспадыні», а таксама старонка ў беларускай «Вікіпедыі», прысвечаная асобе Ганны Цюндзявіцкай, — добры спосаб ушанаваць памяць пра гэтую выдатную гаспадыню, даследчыцу, асветніцу. Магчыма, цяпер варта звярнуць увагу і на асобу яе сына, артылерыйскага прапаршчыка Міхаіла Цюндзявіцкага, і ўшанаваць яго памяць мемарыяльнай дошкай у сталіцы, непадалёк ад месца расстрэлу?

**Марына ВЕСЯЛУХА**



*Форум-2014*

# І папяровыя, і электронныя

Выдавецтва «Вышэйшая школа» сёння вядомае ў нашай краіне не толькі як установа, што спецыялізуецца на выпуску падручнікаў для школ і ВНУ, але і як выдавецтва, што актыўна працуе з новымі тэхналогіямі: і апроч традыцыйных папяровых кніг рыхтуе электронныя дадаткі да іх, а таксама распрацоўвае самастойныя электронныя выданні.

Таму і праграма гэтай установы на XXI Мінскай міжнароднай выстаўцы-кірмашы будзе скіраваная ў асноўным на прадстаўленне новых праектаў у выглядзе мультымедыйных прэзентацый. Але не адмовяцца прадстаўнікі «Вышэйшай школы» і ад звыклага ўсім фармату прэм'еры кнігі з удзелам аўтараў.

І гэта натуральна, бо мы ўсё ж вядзём гаворку пра кніжны форум, дзе кантакт аўтара, выдаўца і чытача — адзін з самых важных аспектаў паспяховай працы.

Так, разынкай праграмы выдавецтва «Вышэйшая школа» абяцае стаць прадстаўленне надзвычай грунтоўнага праекта — серыі кніг «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў» (у 6 кнігах), што пройдзе ў другі дзень кірмашу з удзелам аўтараў-укладальнікаў, а таксама фальклорнага калектыву. Шырокай публіцы будзе прэзентавана і кніга прафесара, доктара псіхалагічных навук Якава Каламінскага «Псіхалагічная культура дзяцінства». Сам аўтар распавядзе пра навуковую навізну і практычную значнасць свайго новага даследавання.




Упэўнена, што настаўнікаў англійскай мовы парадуе прэзентацыя мультымедыйнай версіі падручніка «Англійская мова. 8 клас» (аўтар Людміла Лапіцкая і іншыя). Адметна, што гэтае выданне цяпер прадстаўлена ў надзвычай актуальным і папулярным фармаце *ePub3* (ён спалучае ўсе самыя лепшыя рысы традыцыйнага фармату электронных кніг *ePub* і фармату фіксаванага дакумента *pdf*).

**Юзэфа ВОЎК**

# Падарожжа ў СССР

**У выдавецтве «АСТ» пры падтрымцы ТАА «Харвест» пабачыла свет новая кніга вядомага расійскага пісьменніка, акцёра, рэжысёра і сцэнарыста Паўла Санаева «Хронікі Раздзяўбая». Ужо на вокладцы (пры дапамозе двайной назвы) гэты раман пазіцыянуецца выдаўцамі як працяг любімай многімі аповесці «Пахавайце мяне за плінтусам». Але ці так гэта насамрэч? Ці варта чакаць працягу расповеду пра хворага Сашачку? А можа, гэта новая гісторыя, не менш драматычная і захапляльная?**

### ГАЛОЎНАЕ — ШЧЫРАСЦЬ

«Мяне завуць Савельеў Саша. Я вучуся ў другім класе і жыву ў бабулі з дзядулем. Мама прамяняла мяне на карліка-крывапійцу і павесіла на бабуліну шыю цяжкім крыжам. Так я з чатырох гадоў вішу. Сваю аповесць я вырашыў пачаць з расповеду пра купанне, і не сумнявайцеся, што расповед гэты будзе цікавым. Купанне ў бабулі было значнай працэдурай, і вы ў гэтым зараз пераканаецеся».

Так пачынаецца дэбютная аповесць Паўла Санаева «**Пахавайце мяне за плінтусам».** Гэты твор многіх не пакінуў раўнадушнымі. Чытачоў ён зачараваў




адразу ж: аповесць была напісаная ў 1994 годзе, упершыню апублікаваная ў 1996-м у часопісе «Октябрь». Яна атрымала ўзнагароду ад гэтага літаратурна-мастацкага выдання і нават намінавалася на Букераўскую прэмію. У пачатку 2003 года выйшла самастойнай кнігай, а ў 2010-м была перавыдадзена «АСТ» у пашыранай версіі, куды ўвайшло тры главы, што раней не публікаваліся. Яшчэ большую папулярнасць твору прынеслі яго шматлікія тэатральныя пастаноўкі, а таксама скандальная (ці, хутчэй, спрэчная) экранізацыя 2009 года. Але як бы там ні было, фільм стаў пераможцам многіх конкурсаў, а актрысы Святлана Кручкова (Бабуля Сашы) і Марыя Шукшына (Мама Сашы) атрымалі не адну ўзнагароду: у іх ліку і прэмія «Ніка» за 2009 год у намінацыях «Лепшая жаночая роля» і «Лепшая жаночая роля другога плана».

Сакрэт поспеху падаецца простым: гранічная шчырасць аўтара, захапляльны драматычны сюжэт, знаёмыя многім дэкарацыі жыцця ў Савецкім Саюзе. Як ужо можна было здагадацца з першых радкоў твора, гэтая аповесць распавядае пра жыццё васьмігадовага Сашы Савельева, які жыве ў бабулі з дзядулем, бо бабуля не дазваляе дачцэ выхоўваць сына. Яна ненавідзіць і асуджае «бяспутную» Вольгу, што знайшла новага мужа і цяпер жыве з ім (дарэчы, прататыпам гэтага героя стаў знакаміты Ралан Быкаў, яму і прысвечаны твор). Жорсткая любоў бабулі да ўнука і яе клопаты пра яго больш падобныя да гульні з лялькай, жывой і паслухмянай. Гэты «самааддадзены» клопат хутчэй дапамагае ёй адчуваць уласную значнасць і вастрэй адчуваць свае «пакуты», чым дапамагаць унуку. Яшчэ больш «балюча» бабулі робіць тое, што хлопчык, якога яна вучыць ненавідзець маці, кепска паддаецца апрацоўцы і спрабуе вырвацца з хатняга палону.

Чытаючы кнігу Санаева і гледзячы фільм, немагчыма не суперажываць Сашу. Хлопчык цяжка хварэе, не ходзіць у школу, увесь час знаходзіцца дома з бабуляй, а гэта яшчэ больш узмацняе яго пакуты. І, натуральна, дае яшчэ больш прасторы для бязмежнай бабулінай любові. Таму і не дзіўна, што, пабачыўшы на вокладцы новай кнігі падзагаловак «Пахавайце мяне за плінтусам-2», многія чакалі працягу. Што было далей? Як жыў Саша пасля смерці бабулі? Якім было яго юнацтва? Ці сапраўды добры душой Сашачка ператварыўся ў Раздзяўбая? Ці вылечыўся ён ад сваіх дзіцячых хвароб? Думаецца, набываючы новае выданне, многія чакалі (і яшчэ чакаюць) адказаў менавіта на гэтыя пытанні.

Ды чытачоў чакала расчараванне. Раздзяўбай — не Саша, а зусім іншы персанаж. Ды і гісторыя яго дзяцінства зусім іншая, не такая драматычная, балючая і надрыўная. Інтрыгуючы падзагаловак апынуўся проста надзвычай удалым маркетынгавым ходам, а сам Санаеў у многіх інтэрв'ю падкрэслівае просьбу, каб гэты раман ужо не называлі аўтабіяграфічным…

### «СВАЁ ЖЫЦЦЁ»

Калі разабрацца, то працягу «Пахавайце мяне за плінтусам» быць і не магло. Бо першая аповесць — адкрыццё, гранічная шчырасць аўтара, якую «на паток» паставіць, па сутнасці, немагчыма. Калі ёй і можна прыдумаць працяг, то напісаць яго на такім жа высокім узроўні напружання — для апавядальніка і чытача — немагчыма. Дэбютная кніга аўтара даказала іншае: Санаеў мае талент, умее ператвараць натхненне ў непаўторны літаратурны твор. «**Хронікі Раздзяўбая»** працуюць на іншую мэту. Яны даказваюць чытачу, што аўтабіяграфічны расповед пра дзяцінства — не простая творчая ўдача пісьменніка, а этап фарміравання яго таленту. Санаеў умее ўтрымліваць увагу чытача, ствараць яркія, не банальныя (хоць і характэрныя для свайго часу) вобразы, выказваць усім творам адну вялікую ідэю.

Таму знаёмцеся: Раздзяўбай, звычайны маскоўскі хлопец, які толькі што скончыў школу, паступіў у Сурыкаўскі інстытут і жадае стаць мастаком (але сумняецца ў гэтым). У пачатку кнігі ён жыве разам з мамай і айчымам «Дзядзькам Валодзем», ды потым выпадак дапамагае Раздзяўбаю цалкам пачаць «сваё жыццё» і пераехаць у аднапакаёўку ў Хімках — «тую кватэру», што належала маці яшчэ да шлюбу з дзядзькам Валодзем. Раздзяўбай — худы, нязграбны, сарамлівы і няўпэўнены ў сабе малады чалавек. Здаецца, што ён не прыкладвае ніякіх намаганняў дзеля дасягнення поспеху і ўладкавання свайго жыцця. Тым не менш гэты юнак досыць сімпатычны чытачу. Ён наіўны, шчыры, верыць у сапраўднае рамантычнае каханне, у магчымасць атрымаць грошы і высокі статус у грамадстве, мае вялікія амбіцыі, аднак не ведае, як дасягнуць іх рэалізацыі.

Проста на вачах, цягам расповеду, Раздзяўбай перажывае сталенне, знаходзіць новых сяброў, каханне, новыя мары. І калі раман адным падаецца надзвычай простым, сюжэт — зацягнутым, мова твора — беднай, то як контраргумент я адзначу ўдалае адлюстраванне аўтарам пэўных тэм і падкрэслю яркасць і значнасць асобных вобразаў.

Час дзеяння рамана: канец 1980-х — пачатак 1990-х. Павел Санаеў досыць падрабязна апісвае адметнасці побыту, адпачынку, працы савецкай інтэлігенцыі гэтага часу. Дзядзька Валодзя — дырэктар выдавецтва, таму яны з жонкай маюць магчымасць час ад часу выязджаць у Францыю, а Раздзяўбаю зрабіць досыць шчодры падарунак — атрыманую «па блаце» пуцёўку ў пансіянат для музыкаў «Пумпуры» ў Юрмале. Але апынаецца, што у Савецкім Саюзе ёсць яшчэ больш «залатая» моладзь, што вучыцца ў Інстытуце замежных моў ці Маскоўскім дзяржаўным інстытуце міжнародных адносін і мае магчымасць адпачываць у «наменклатурных» (што на мове аднаго з герояў азначае «надзвычай якасных») месцах. Менавіта з такімі хлопцамі — Валерам і Марцінам — знаёміцца Раздзяўбай па дарозе ў Юрмалу. Пазней, праз некалькі год, менавіта Марцін стане тым самым Д'яблам, ці, па-булгакаўску, Воландам, з якім Раздзяўбай паб'ецца аб заклад і падпіша дамову фактычна на ўсё жыццё.

Вельмі добра паказана і першае каханне Раздзяўбая з дзяўчынай з Рыгі Дыянай. Раздзяўбай імкнецца быць рамантычным: прылятае ў Рыгу, каб падаць ёй сняданак, павіншаваць з Днём народзінаў і Новым годам, запрашае яе ў Маскву на спектакль, але ўсё роўна Дыяна назаўсёды з'язджае ў Лондан, пакінуўшы хлопца ў слязах і з разбітым сэрцам.

Выдатна адлюстраваны і шлях галоўнага героя да веры ў Бога. Менавіта праз дыялогі з яго ўнутраным «Я» чытач можа давядацца пра сапраўдную сутнасць хлопца, яго таемныя жаданні, страхі, памкненні. Гэты аспект рамана спачатку выглядае занадта завостраным, акцэнтаваным, зацягнутым і нават непатрэбным. Але фінал усё расстаўляе на свае месцы. Менавіта фарміраванне ўласнага стрыжня, вера ў сябе, свайго Бога павінны дапамагчы Раздзяўбаю ў будучыні, калі ў наступнай частцы кнігі ён будзе супрацьстаяць Воланду і старацца перамагчы ў спрэчцы з ім.

Расчароўвае толькі адно: мара Раздзяўбая надта павярхоўная, матэрыяльная і зямная. А можа, гэта і добра, бо яна такая «чалавечая»? Бо сапраўды, мала хто марыць змяніць сваю сутнасць, выпрацаваць ў сабе пэўныя станоўчыя рысы, імкнецца да гарманічнага існавання ў свеце. Таму не дзіўна, што Раздзяўбай, як і многія мужчыны, імкнецца валодаць знешнімі атрыбутамі шчаслівага і паспяховага жыцця — грашыма і прыгожымі жанчынамі-мадэлямі, забываючыся на «духоўны» бок справы.

Праз вочы галоўнага героя яскрава паказаныя і палітычныя падзеі пачатку 1991 года: змена ўлады, жнівеньскія дэманстрацыі і тое, як усё гэта ў выніку адбілася на жыцці простых людзей. Грамадства надзвычай хутка раздзялілася на два слаі: вельмі багатых (як іх называе аўтар, марскіх рыб Баракудаў), якія захапілі маёмасць і мелі магчымасць атрымліваць вялікія грошы, і вельмі бедных (на мове Санаева, прэснаводных Ляшчоў), вымушаных займацца цяжкай працай, каб мець магчымасць набыць нават самае неабходнае. Звыклая сістэма, пры якой чагосьці не хапала, але ўсё было прадказальна і, зразумела, развалілася, і патрэбна было шукаць сваё новае месца ў новым свеце. Нарадзіўшыся Ляшчом, Раздзяўбай імкнецца стаць Баракудам. Яшчэ больш яго жаданне ўзмацняецца, калі ён атрымлівае магчымасць пабачыць іх свет знутры, наведаўшы вечарынку разам з Марцінам.

### ПРАЦЯГ БУДЗЕ…

У цэлым кніга чытаецца вельмі лёгка. Дынамічны (а часам і сапраўды зацягнуты) сюжэт вельмі хутка захоплівае ў палон. І нават вельмі простаму і бязвольнаму Раздзяўбаю хочацца дапамагчы, падказаць, паспачуваць. Цалкам вытлумачальна, што пасля прачытання кнігі многія назавуць твор павярхоўным, пазбаўленым мастацкай вартасці і нудным, пажадаюць схаваць яго як мага далей ці проста падорацць знаёмым. Але ўпэўненая: знойдуцца і тыя, хто будзе чакаць працягу расповеду — кнігі «**Хронікі Раздзяўбая. Спрэчка на бале Воланда».**




Я буду ў ліку другіх. Так, Раздзяўбай — просты, гультаяваты і наіўны малады чалавек. Аўтар нават ніколі не называе яго па імені. Проста Раздзяўбай. Для мяне галоўная інтрыга ўсё ж заключаецца ў тым, ці зможа ён «зрабіць сябе», развіць волю і стаць здольным перамагчы ў спрэчцы з Марцінам? Нездарма ж у ім прачынаецца вера ў Бога, і невыпадкова ў адной з фінальных сцэн кнігі ў свядомасці Раздзяўбая прачынаюцца слушныя думкі. Вынік лёсавызначальнай спрэчкі будзе вядомы праз 20 гадоў, у 2012-м, — значыць, у наступнай кнізе Павел Санаеў перанясе чытача ў наш час. А можа, цяпер галоўны герой не такі ўжо і Раздзяўбай?

Мяркуецца, што «Спрэчка на бале Воланда» пабачыць свет напрыканцы 2014 года. Сам пісьменнік у адным з інтэрв'ю адзначыў: «Кніга плануецца больш складаная па структуры, больш драматычная і такая ж аб'ёмная — больш як 400 старонак. Так што вельмі добра склалася, што раман выдаецца ў дзвюх частках. Кніга ў тысячу старонак многіх чытачоў магла б напросту спалохаць. Хоць я вельмі стараўся зрабіць так, каб мой тэкст лёгка чытаўся».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Матрос у бязмежным моры

Часам складана прадбачыць, дзе знойдзеш ідэю-зачэпку для новага матэрыялу. Так было і гэтым разам. Нeяк я шпацыравала па галоўным праспекце сталіцы, і позірк зачапіўся за рэкламную расцяжку з тэкстам: «Хутчэй, вышэй, мацней». А хто ўстанаўлівае эталоны ў свеце літаратуры? Ад якіх выхадных кропак павінен адштурхоўвацца аўтар, каб стаць «хутчэй-мацней» за сваіх калег? І ці існуюць аб'ектыўныя параметры вызначэння лепшага з пункту гледжання філалогіі, а не толькі камерцыі?

Першае, што прыходзіць на думку, — прэмія. Часткова правільна, але пры гэтым досыць спрэчна. Чым з'яўляецца прэмія? Тут, як у кулінарным шоу, усё залежыць ад таго, любіць суддзя індыйскую кухню з кары ці аддае перавагу пяшчотнаму французскаму сметанковаму соусу. На аснове меркавання журы выбіраецца твор актуальны, захапляльна і прафесійна напісаны. Журы, у сваю чаргу, таксама ўяўляе сабой нейкую сацыяльна-прафесійную выбарку. Ну і як пры такім раскладзе сіл чытач можа выбраць сапраўды лепшы твор? Ніяк. Бо лепшае — амаль як ісціна, што для кожнага свая. Атрымліваецца, чытач сёння пакінуты на адзіноце, нібыта матрос, які выжыў пасля катастрофы і дрэйфуе ў бязмежным моры на кавалку карабля ў паўсвядомым стане.

Асацыяцыя з воднай стыхіяй тут не выпадковая. Колькі разоў з калегамі-кніжнікамі мы абмяркоўвалі пытанне разнастайнасці сучаснага літаратурнага свету. Яшчэ 20-30 гадоў таму, калі кнігарняў было непараўнальна больш, усё роўна востра стаяла пытанне, дзе і як набыць рэдкую кнігу. Сёння ж крытэрый унікальнасці аўтара і асобнага выдання размыты, калі не сказаць страчаны. Таму вельмі складана вырашыць, што чытаць.

Тут зноў чакае парадокс. У час вострай патрэбы ў капітанах ад літаратуры падаецца, што гэтая прафесія сыходзіць у нябыт. Гаворка ідзе пра літаратурных крытыкаў. Ёсць рэцэнзенты, аглядальнікі... Але ўсе яны прадастаўляюць толькі факты пра кнігі, якія можна прачытаць таксама ў анатацыях і рэкламных буклетах. І першае, і другое ствараецца самім выдавецтвам выключна ў камерцыйных мэтах — прэзентаваць кнігу як мага прыгажэй, каб дасягнуць рэкорднага ўзроўню продажаў. А хто паклапоціцца пра аналіз твора, калі хочаце, яго псіхалагічнае прэпарыраванне? Скажаце, што гэта будзе падобна да курса «Літаратура для чайнікаў»? Магчыма. Але сучаснае грамадства з пункту гледжання ўмення чытаць якраз і знаходзіцца на ўзроўні дашкалят, якіх трэба весці за ручку і па дарозе тлумачыць, чаму нешта добра або кепска. Бо калі займацца простай градацыяй фактаў па шкале «станоўча — адмоўна», гэтае завучванне ісцін не прывядзе да развіцця амаль зніклага віду «Чалавек, які чытае».

Калі выдавецтва хоча знайсці варты ўвагі рукапіс, то звяртаецца па дапамогу да літаратурнага агента. Чытач жа можа выбраць якасны твор, а не чарговую «жуйку» з парады іншага чытача: строгага, прафесійнага, які бліскуча эрудзіраваны і тонка адчувае. Крытык, што не валодае падобнымі якасцямі, ператвараецца ў злобнага крытыкана, у ліку трафеяў якога — толькі дробныя ці крохкавыя напады.

Французскі пісьменнік Жуль Рэнар казаў: «Крытык — чытач, які прыносіць непрыемнасці». Менавіта так і павінна быць, каб існавала добрая літаратура.

# Яшчэ адна ўзгаданая вайна

100 гадоў таму пачалася адметная сваёй жорсткасцю і крывавымі наступствамі Першая сусветная вайна. Разбуральнай хадой яна прайшлася па тэрыторыі Беларусі, якая ў той час знаходзілася ў складзе Расійскай імперыі. Пазней Кастрычніцкая рэвалюцыя і Грамадзянская вайна адсунулі «ў цень» тыя падзеі, і многія аспекты першай глабальнай катастрофы ХХ стагоддзя так і не былі даследаваныя. Сёння навукоўцы намагаюцца ўзнавіць поўную карціну трагедыі на беларускіх землях, асэнсаваць досвед мінулага і зрабіць высновы для цяперашняга і наступнага пакаленняў.

29 студзеня 2014 г. у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі адбудзецца прэзентацыя навукова-папулярнага выдання «Беларусь у гады Першай сусветнай вайны», што пабачыла свет у выдавецтве «Беларусь». Гэтая праца кандыдата гістарычных навук, старшага навуковага супрацоўніка Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Валянціны Бялявінай адлюстроўвае падзеі Першай сусветнай вайны і побыт насельніцтва на тэрыторыі Беларусі. Адметнай рысай выдання з'яўляецца вялікая колькасць найцікавейшых дакументальных фотаздымкаў таго часу.

Да імпрэзы ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі арганізаваная выстаўка «Вялікая забытая вайна», на якой прадстаўлены выданні 1914 — 2013 гг.: успаміны сучаснікаў і сведак вайны, справаводчая дакументацыя, публікацыі ў перыядычных выданнях, даследаванні айчынных і замежных навукоўцаў.

Сярод найстарэйшых крыніцазнаўчых дакументаў — брашура «Устаў Беларускага Таварыства па аказанні дапамогі ахвярам вайны» (1915) і перыёдыка 1914 — 1918 гг.: грамадска-палітычная і навукова-асветніцкая газета «Наша ніва», грамадска-палітычная газета «Гоман», каталіцкая газета *Belarus*, часопісы «Вестник Могилёвского земства», «Минские Епархиальные ведомости» і іншыя. У іх друкаваліся афіцыйныя дакументы, маніфесты, заклікі да ахвяравання на патрэбы параненых і хворых воінаў, дапамогі іх сем'ям.

На выстаўцы можна ўбачыць расійскія сатырычныя і гумарыстычныя часопісы «Красный смех», «Кривое зеркало» з палітычнымі карыкатурамі таго часу. Зацікавяць наведвальнікаў выпускі маленькага часопіса «На чужбине», які выходзіў у Жэневе ў 1916 г. і прызначаўся для бясплатнай раздачы ў лагерах рускіх ваеннапалонных у Германіі і Аўстрыі.

З мэтай ажыўлення і падтрымкі ў грамадстве клопату пра палонных воінаў за мяжой і аказанне ім матэрыяльнай дапамогі было ажыццёўлена выданне літаратурнага зборніка «У дапамогу палонным рускім воінам» (1916).

Цікавасць уяўляюць дакументы, выдадзеныя падчас вайны, дзе зроблена спроба асэнсавання падзей відавочцамі, якія належалі да розных дзяржаў і грамадска-палітычных лагераў. У экспазіцыі — выданні «Нашы левыя групы і вайна» Мікалая Суханава (1916) і «Першыя рэформы ў рускай арміі» (1917) Зігмаса Ангарэціса, якія распавядаюць пра аспекты ўспрымання вайны рознымі слаямі насельніцтва Расійскай імперыі, паступовую змену палітычных арыенціраў у масавай свядомасці, у тым ліку і ў дзеючай арміі.



Пра ўспрыманне вайны англійскімі саюзнікамі распавядаюць пераклад кнігі англійскага фізіка Олівера Лоджа «Вайна і што будзе далей» (1916) і кніга расійскага пісьменніка Карнея Чукоўскага «Тыя, хто маўчаў, загаварылі...» (1915). Завяршае першы раздзел экспазіцыі, прысвечаны выданням часоў вайны, кніга «Новая гандлёвая дамова з Германіяй...» (1918), у якой эканаміст і публіцыст Уладзімір Гефдзінг дае каментарый да мірнай дамовы, падпісанай прадстаўнікамі Германіі і савецкай улады ў Брэст-Літоўску.

Першыя навуковыя работы, прысвечаныя вялікай вайне, прадстаўляе твор яе ўдзельніка, расійскага ваеннага гісторыка, генерала Андрэя Заянчкоўскага «Сусветная вайна, 1914 — 1918» (1924), які ўключае шырокі масіў архіўных матэрыялаў.

Каштоўнай крыніцай для вывучэння досведу Першай сусветнай вайны з'яўляецца багатая звесткамі мемуарная літаратура. У экспазіцыі — выданні 1920-х гадоў, у якіх апісваюць падзеі самі іх удзельнікі, прадстаўнікі процілеглых блокаў імперыялістычных дзяржаў: адзін з найбольш слынных дзеячаў германскага генеральнага штаба Эрых Людэндорф («Мае ўспаміны пра вайну 1914 — 1918 гадоў», 1923) і міністр замежных спраў Аўстра-Венгрыі Атакар Чэрнін («У дні першай сусветнай вайны...», 1923). Расійскі бок прадстаўляюць выданні генералаў Антона Дзянікіна («Нарысы рускай смуты» (Т. 1, 1921) і Аляксея Паліванава («З дзённікаў і ўспамінаў на пасадзе ваеннага міністра і яго памочніка 1907 — 1916», 1924).

Сярод дакументаў, якія датычаць знешняй палітыкі Расіі і міжнародных адносін, — выданне «Хто даўжнік?: зборнік дакументаваных артыкулаў па пытанні пра адносіны паміж Расіяй, Францыяй і іншымі дзяржавамі Антанты да вайны 1914 г., у час вайны і ў перыяд інтэрвенцыі» (1926).

Пэўны матэрыял утрымліваюць публікацыі актыўных дзеячаў будаўніцтва савецкай улады ў Беларусі, напрыклад, праца Вільгельма Кнорына «1917 год у Беларусі і на Заходнім фронце» (1925).

Сярод літаратурных крыніц — аповесць выдатнага дзеяча беларускай культуры Максіма Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне» (1926 г.), напісаная на аснове дзённікавых запісаў і заметак, якія вёў пісьменнік у кароткіх перапынках паміж баямі. У цэнтры ўвагі аповесці — паказ вайны праз прызму яе ўспрымання шараговым салдатам.

Гісторыя Першай сусветнай вайны прыцягвала ўвагу многіх даследчыкаў савецкага перыяду, але, на думку навукоўцаў, погляд на вайну як на самастойны, цэласны этап айчыннай гісторыі не знайшоў увасаблення. Вялікая вайна разглядалася то ў сувязі з гісторыяй Кастрычніцкай рэвалюцыі і дзейнасці бальшавіцкай партыі, то ў сувязі з дзейнасцю беларускага нацыянальнага руху адпаведнага часу. Сучасная навука па-іншаму ставіцца да праблемы суадносін паміж вайной і рэвалюцыяй. Гэты падыход знайшоў увасабленне ў выданнях XXI ст.

Дапаўняюць кніжную экспазіцыю копіі фотаздымкаў часоў Першай сусветнай вайны, зробленыя яе ўдзельнікамі. Сярод іх — фота з франтавога альбома «Памяткі вайны 1914 — 1917 гг.» беларускага паэта, празаіка, этнографа, мастака Уладзіслава Паўлюкоўскага, які служыў у расійскім войску ў чыне прапаршчыка. Арыгіналы яго фотаздымкаў, створаных на тэрыторыі Беларусі, захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

**Алена ЦІТАВЕЦ**

# Прачытаў — перадай іншаму

Днямі ў новай зале чакання Мінскага чыгуначнага вакзала я заўважыла цікавую кніжную шафу з надпісам «Bookcrossing». На паліцах стаяла некалькі кніжак — па ўсім відаць, з прыватных бібліятэк. Успомнілася, як калісьці ў далёкім дзяцінстве, едучы з татам у купэйным вагоне да Масквы, я была здзіўленая, што хтосьці пакінуў некалькі часопісаў і нават кніжку Льва Касіля. На заўвагу, што, можа, папярэдні пасажыр забыўся гэта ўсё, праваднiца рассмяялася: маўляў, чытайце на здароўе, гэтая літаратура падарожнічае ўжо не адну тысячу кіламетраў.

Прызнайцеся, прачытаўшы кнігу, якая вас усхвалявала, так хочацца падзяліцца з сябрамі не толькі ўражаннямі, але і самой кнігай. Мяркую, знойдзецца шмат кнігалюбаў, якія раскажуць, што, даўшы некаму пачытаць, так і не дачакаліся вяртання твора на кніжныя паліцы прыватнай бібліятэкі. Людзі, якія аб'ядноўваюцца ў буккросінгавыя клубы, ламаюць стэрэатыпы. Яны выпрацоўваюць новае стаўленне да кніг: пачытаў — перадай іншаму. Буккросеры выпраўляюць кнігу ў падарожжа, бо вераць, што толькі такім чынам найбольшая колькасць чытачоў азнаёміцца з яе зместам, атрымае асалоду ад прачытанага. Яны крыху авантурысты, але хіба месца кнігі толькі на бібліятэчнай паліцы?

Буккросінг — сусветны рух, сэнс якога заключаецца ў свабодным падарожжы выданняў ад аднаго чытача да другога. Буккросінг стаў такім папулярным, што было створана некалькі аналагавых рухаў. Напрыклад, з'явіліся кнігі, якія «жывуць» толькі ў метро. У Італіі ідэю буккросінгу падхапілі дзяржаўныя структуры. Гарадскія ўлады Фларэнцыі падарылі руху чатыры тысячы кніжак, якія былі «рассеяны» на кірмашах горада і ў будынку мэрыі. У Францыі рух падтрымалі кніжныя выдавецтвы. З іх дапамогай было выдадзена дзве тысячы кніжак, якія распаўсюдзілі па салонах, а ў 2005 годзе ў гэтай краіне адбыўся флэшмоб, паводле сцэнарыя якога трэба было выйсці з дома з кніжкай, важнай для вас асабіста, і пакінуць яе з дароўным надпісам незнаёмаму чытачу ў метро або ў кавярні. Каля ста тысяч буккросераў налічваецца ў ЗША. Амерыканцы, як таго і варта было чакаць, ужо нават зарабляюць на модным руху. Якім чынам? Не, яны не кнігі прадаюць, а сувеніры з сімволікай кросінгу.

У дапамогу еўрапейскім кросерам, асабліва тым, хто займаецца «паляваннем» на патрэбную кнігу, створаная радыёпраграма на «Бі-бі-сі», а ў некаторых супермаркетах арганізаваныя спецыяльныя палічкі для кніг-падарожніц. Бяспечныя месцы для кніг створаныя ў магазінах і кавярнях Масквы, Растова, Пецярбурга, Уфы ды іншых гарадоў Расіі.

За апошнія гады з'явілася некалькі разнавіднасцей гэтага руху. Букрэй — падарожжа па пошце, калі кніга адсылаецца дакладнаму адрасату, а той, прачытаўшы, мусіць яе пасласць яшчэ некаму. Букрынг — кніга высылаецца поштай, але павінна вярнуцца назад да гаспадара.

Хочаце, каб ваша кніга знайшла ўдзячнага чытача, — пакіньце яе ў месцы, дзе ёсць аматары чытання, і такім чынам падоўжыце ёй жыццё.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ**

# Вялікаму тэатру — вялікі баль

Традыцыйна на Стары Новы год у Вялікім тэатры Беларусі адбываецца Вялікі навагодні баль. Сёлета адзначана першая круглая дата — пяць гадоў існавання.


Фота Дар'і Буракінай

У апошнія гады склалася пэўная мода на балі, адраджэннем гэтай прыгожай традыцыі асэнсавана, з густам, бавіць час займаюцца і клубы рэканструктараў, і аматары бальнай харэаграфіі, і проста прыватныя асобы, якія жадаюць адзначыць сваю ўрачыстасць незвычайна. Але Вялікі навагодні баль у Вялікім тэатры — асаблівы. За пяць гадоў у яго склалася традыцыя, якая, маючы пэўную аснову (Рускі, Венскі і Княжацкі балі, а таксама свецкія салоны, канцэрт-сюрпрыз і фінальны гала-канцэрт), развіваецца: набывае новыя рысы, знаходзіць новыя формы. Вялікае значэнне мае і месца правядзення балю, тэатр задзейнічае ўсе свае магчымасці — не толькі антураж, але, што самае галоўнае, творчыя сілы: сімфанічны аркестр, хор, оперную і балетную трупы, запрошаныя калектывы. Паколькі баль праходзіць у тэатры, гэта само сабой зразумела, але трэба яшчэ ўмець скарыстацца магчымасцямі, што віртуозна робіць рэжысёр-пастаноўшчык Галіна Галкоўская.

Дзеянне ва ўсіх кутках тэатра не перапыняецца ні на хвіліну. Так, на працягу ўсёй святочнай навагодняй ночы ладзіліся канцэрты ў Камернай зале імя Александроўскай, на вялікай сцэне, адкуль гучалі віншаванні са святам ад сусветных зорак (у Фрэдзі Мэрк'юры, Мансерат Кабалье, Мэрылін Манро ды іншых пераўвасобіліся артысты тэатра). У глядацкім фае чаргаваліся выступленні інструментальных і харэаграфічных калектываў, музычныя праграмы ад артыстаў Вялікага тэатра і іншыя цікавыя міні-імпрэзы. Усю ноч працавалі салоны: гістарычны, фотасалон, салоны лялек і прадказання будучыні. Нават простага пералічэння дастаткова, каб зразумець, якія вялікія сілы ўкладзены ў арганізацыю свята і колькі людзей задзейнічана ў ім. Аднак не толькі разнастайная праграма робіць баль любімым публікай. Унікальнасць культурнага праекта яшчэ і ў тым, што ён стаў, бадай, самай вытанчанай, самай арыстакратычнай разнавіднасцю так званага «масавага свята», дзе госці маюць магчымасць на самай справе стаць галоўнымі дзеючымі асобамі вялікага спектакля.

Паводле рэжысёра Галіны Галкоўскай, пяць гадоў таму немагчыма было ўявіць, што баль набудзе такую папулярнасць. Праект адраджае танцавальную традыцыю, культуру свецкіх забаў, дорыць людзям эстэтычную асалоду і радасць зносін — менавіта ў гэтым, напэўна, і ёсць яго галоўная «разынка». Людзі сочаць за тэатральнай афішай, каб не прапусціць пачатак продажу квіткоў, загадзя прадумваюць той вобраз, у якім яны з'явяцца на балі, з захапленнем наведваюць урокі танцаў і засвойваюць складаныя танцавальныя фігуры.

Асобна варта сказаць і пра танцавальную праграму, якая складае аснову і — для значнай часткі гасцей — галоўны сэнс гэтага свята. На думку танцмайстра Наталлі Фурман, у тых, хто наведвае баль штогод, ёсць бясспрэчныя поспехі ў засваенні бальнай культуры. Калі мець на ўвазе, што цікавасць да правядзення баляў да нас вярнулася пазней, чым у краіны СНД, а ў Еўропе гэтую традыцыю наогул не гублялі, то імкненне беларусаў танцаваць і іх поспехі вельмі радуюць. Выдатна, што колькасць удзельнікаў нашага балю расце з году ў год. Нават фае ўжо проста не хапае, таму танцы паўтараюцца па два разы, каб усе госці святочнай ночы змаглі іх выканаць.

Дарэчы, у гэтым годзе фігуры контрданса, паланэза, мазуркі выконвала больш як 170 пар танцораў, а ўвогуле на Вялікі навагодні баль завітала больш як тысяча гасцей.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

# Досвед нёманцаў

На базе Уздзенскага гісторыка-краязнаўчага музея ў мінулым годзе ладзіўся творчы праект «Выток Нёмана — выток духоўнасці». Дзякуючы актыўнай супольцы мастакоў з Уздзеншчыны, а таксама іх аднадумцам з іншых культурных рэгіёнаў Беларусі на працягу 2013 года праводзіліся супольныя перасоўныя выстаўкі ў шматлікіх беларускіх гарадах і мястэчках (Узда, Нясвіж, Пінск, Салігорск, Крупкі, Мар'іна Горка, Навагрудак, Клецк і інш.).

Падчас раённых пленэраў арганізоўваліся сустрэчы з творчай моладдзю, праводзіліся майстаркласы, якія спрыялі эстэтычнаму выхаванню малады мастакоў. Удзельнікі выставак падаравалі раённым установам культуры больш як 30 творчых работ у розных відах мастацтва. Апрача таго, мастакі-перасоўнікі набылі за свой кошт для Навагрудскага музея імя Адама Міцкевіча навуковыя публікацыі паэта, выдадзеныя ў XIX ст.

Актывістамі праекта на грамадскіх пачатках быў створаны відэацэнтр «ПраСВЕТстудыя», на базе якога былі зняты відэасюжэты з серыі «Мастацкае жыццё Белай Русі», прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння Віталя Цвіркі, 60-годдзю з дня нараджэння Леаніда Гоманава, 120-годдзю стварэння першага паэтычнага зборніка Лесі Украінкі, 120-годдзю з дня нараджэння выбітнага мастака і тэарэтыка еўрапейскага авангарда Уладзіслава Стрэмінскага. Наладжаны стасункі з міжнароднымі грамадскімі арганізацыямі, мастацкімі цэнтрамі ў Расіі, Украіне, Польшчы, Францыі, Італіі. Мерапрыемствы былі арганізаваны і праведзены за кошт удзельнікаў праекта. Але арганізатары не пакідаюць надзей на падтрымку спонсараў, не абыякавых да культурных ініцыятыў.

Напрыканцы снежня ў Мінску была праведзена сустрэча мастакоў, актывістаў і ўдзельнікаў праекта «Выток Нёмана — выток духоўнасці», дзе падведзены вынікі супольных творчых вандровак па Беларусі цягам года. Адзначалася плённая дзейнасць у арганізацыі штомесячных раённых пленэраў у межах дабрачыннага праекта «Крылы анёла», які арганізаваны пад эгідай Беларускай праваслаўнай царквы і Мінскага аблвыканкама. Прыемна, што новымі ўдзельнікамі праекта ў гэтым годзе сталі мастакі і мастацтвазнаўцы М. Эльяшэвіч, Ф. Ладуцька, У. Рынкевіч, А. Бяляўскі, У. Сытчанка, К. Піятроўскі (Польшча), І. Котава (Францыя), Т. Фаменка (Італія) і іншыя. Добрай традыцыяй становяцца міжнародныя творчыя імпрэзы, што арганізоўваюцца сумесна з Домам дружбы, Мінскім міжнародным жаночым клубам ды іншымі дзяржаўнымі і грамадскімі структурамі.


Яўген Шунейка «Паэт і муза», 2009.


Яраслаў Філіповіч «Залатая антылопа». Бронза.


Мікалай Мішчанка «Хата ля старой бярозы», 2006. Палатно, алей.

Мінулагоднія мерапрыемствы атрымалі выдатную медыйную падтрымку: дзякуючы куратару праекта «Выток Нёмана — выток духоўнасці» Васілю Лычкоўскаму была аператыўна распрацавана інтэрнэт-прэзентацыя кожнага культурнага праекта, з'явілася серыя асветніцкіх фільмаў пра мастакоў Беларусі.

У чым сакрэт поспехаў? А менавіта ў самой ідэі супольнай дзейнасці, якая прадугледжвае шчырыя сяброўскія стасункі, павагу да агульнай справы, здольнасць дзяліцца з кожным мастацкімі здабыткамі, працаваць дзеля культурнага развіцця краіны.

**Яўген ШУНЕЙКА**

# Кветкавы рай

Выстаўка акварэляў Таісіі Анцух, педагога аб'яднання «Габеленчык» пры сталічным Палацы дзяцей і моладзі «Арыён», адкрылася ў бібліятэцы імя У. Маякоўскага (мікрараён Шабаны). Экспазіцыю складаюць творы XXI стагоддзя.


«Настачка».

Якія толькі кветкі не малюе мастачка: бэз, вяргіні, рамонкі… Часам сярод іх з'яўляюцца і вобразы дзяцей — кветак жыцця! З дапамогай каляровай акварэлі Таісія Анцух адлюстроўвае трапяткія формы прыроды. У душы яна рамантык, музыкант, мастачка адначасова. Таму лёгка знаходзіць для сябе новую жывапісную мелодыю і перадае захапленне чысцінёй царства кветак.

Фарбы, нібыта хвалі, плывуць і ствараюць на паперы неверагоднае багацце размытых адценняў. Калі ў рабоце дамінуе штрыхавая лінія з каляровай афарбоўкай — гэта графічны метад акварэльнай тэхнікі, а калі лінія растае ў каляровых плямах — акварэльны жывапіс. Таісія Анцух — выдатны майстар апошняга, прадстаўніца школы знакамітага мастака і мастацтвазнаўцы Уладзіміра Рынкевіча.

Творчая біяграфія Таісіі Вікенцьеўны пачыналася ў мастацкай школе пад дахам Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Потым — вучоба ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. Глебава і Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, дзе педагогамі былі прафесіяналы класічнай музыкі.

Кожная карціна, прадстаўленая на выстаўцы ў бібліятэцы імя У. Маякоўскага, мае свой непаўторны стыль. Аўтар перадае адчуванне эмацыянальнай насычанасці і драматызму, рухомасці і няўстойлівасці імгнення. Такімі атрымаліся работы «Жнівеньскае красаванне», «Бацькоўскія яблыкі», «Кветкі маёй надзеі». У карціне «Настачка» вобраз дзяўчынкі — увасабленне маладой Беларусі, з тыповымі станоўчымі якасцямі беларускага характару: талерантнасцю, стрыманасцю, памяркоўнасцю. Нацюрморт «Кветкавы рай», што неаднойчы экспанаваўся на выстаўках Палаца мастацтва і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, трактуецца як дар прыроды чалавеку. Сёння карціна знаходзіцца ў калекцыі Музея сучаснага выяўленчага мастацтва.

**Людміла НАЛІВАЙКА**

# Шчыры клуб

Восеньская музычна-паэтычная вечарына ў сталічнай бібліятэцы № 22, што знаходзіцца ў новым мікрараёне «Брылевічы», стала для кніжнай скарбніцы лёсавызначальнай. На святочнай імпрэзе «нарадзіўся» літаратурны клуб «Шчырасць». Ініцыятар яго стварэння і самы актыўны ўдзельнік — вядомы паэт, празаік, публіцыст, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў.

Справа ў тым, што бібліятэка — гэта не толькі месца атрымання ведаў, але і цэнтр зносін, дзе трэба ствараць умовы, спрыяльныя для цікавага правядзення вольнага часу. Галоўная мэта членаў клуба — атмасфера сяброўства, добразычлівасці і неабыякавасці да падзей, якія тут адбываюцца і, канечне, адзін да аднаго. Падчас працы аб'яднання праводзяцца сустрэчы са знакамітымі і маладымі пісьменнікамі, кампазітарамі, выканаўцамі, прэзентуюцца кнігі. Пасяджэнні праходзяць у самых розных фарматах, каб зацікавіць таленавітых творцаў і ўсіх аматараў прыгожага і шчырага беларускага слова.



*Падчас прэзентацыі кнігі Валянціны Паліканінай.*

Паводле загадчыка бібліятэкі Наталлі Ярашэвіч, ідэя заснавання клуба з'явілася яшчэ ў кастрычніку, падчас вечарыны Міхася Пазнякова, прысвечанай Дню маці. «Пісьменнік прыйшоў да нас, каб падзяліцца часцінкай сваёй душы, і — прапанаваў стварыць літаратурнае аб'яднанне», — распавяла спадарыня Наталля.

Кожная вечарына ў клубе «Шчырасць» мае поспех. У невялічкай, але ўтульнай зале часта не ўсім хапае месца: жадаючых вельмі шмат, і ў асноўным гэта моладзь.

Першая імпрэза пад рамантычнай назвай «Восеньскі вальс» пачалася з музычных і паэтычных падарункаў — вершаў М. Пазнякова і душэўных песень астравецкага кампазітара і выканаўцы Аляксандра Якіменкі, а скончылася хваляй апладысментаў. Дарэчы, лірычную атмасферу стваралі і іншыя госці. Сярод іх — паэтэса Людміла Клачко, пераможца і прызёр шматлікіх літаратурных конкурсаў, малады і яркі голас беларускай паэзіі, а таксама Сяргей Бутоўскі, кампазітар і музыкант, які парадаваў слухачоў спевам гітарных акордаў. Важна яшчэ і тое, што бібліятэка падрыхтавала да імпрэзы выстаўку кніг «Мінскія маладыя галасы», дзе размясціліся творы маладых творцаў.



*Творчая вечарына Кацярыны Массэ.*

Другое значнае мерапрыемства, якое адбылося ў бібліятэцы з нагоды адкрыцця клуба, — прэзентацыя кнігі «Льётся свет в моё окно» маладой паэтэсы Кацярыны Массэ, яшчэ адной пераможцы літаратурных конкурсаў. Па традыцыі прадстаўляў таленавітую дзяўчыну Міхась Пазнякоў. Ён адзначыў, што вершы для Кацярыны не проста захапленне ці самамэта, а адлюстраванне ўнутранага стану, пошукі адказаў на жыццёвыя пытанні ў наш даволі складаны час. І сапраўды, усе, хто прысутнічаў на прэзентацыі, адчулі, што ў паэтычным бачанні паэтэсы перапляцены свет і цемра, захапленне і сумненне, сум і надзея, боль і каханне. Такім чынам, пасяджэнне клуба пацвердзіла: на паэтычным небасхіле запалілася яшчэ адна зорачка. А што наконт тых, хто там ужо добра ўладкаваўся?

У канцы снежня клуб «Шчырасць» запрасіў у госці вядомую паэтэсу, журналіста, перакладчыка, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Валянціну Паліканіну. У бібліятэцы прайшла прэзентацыя яе дзясятага зборніка твораў, кніг паэзіі і прозы «Не сдавайся времени, душа!». Кніга — гэта заўсёды размова, а кніга вершаў — самая шчырая размова. Менавіта таму на сустрэчу з Валянцінай Пятроўнай прыйшлі тыя, хто любіць, ведае і адчувае глыбіню лірычнага слова.

Сустрэчы, якія праводзяцца ў бібліятэцы № 22, — не проста адпачынак для душы, але і навука для яе: не забываць сваю мову, культуру, абменьвацца з людзьмі, якія побач, цеплынёй і разуменнем. Дарэчы, яшчэ адзін доказ гэтаму: 16 студзеня літаратурны клуб правёў чарговую аўтарскую сустрэчу, гэтым разам — з паэтам-песеннікам Міколам Шабовічам, пад назвай «Не забывай… каханне вечнае!». Зрэшты, як і шчырасць.

**Марыя ВОЙЦІК**

*Цікавы досвед*

# Частавалі…

У Слуцкай раённай цэнтральнай бібліятэцы існуе цікавая традыцыя: падчас навагодніх і калядных свят праводзіць «Кніжныя Каляды». Ва ўстанове ў гэтыя дні пануе ні з чым не параўнальная атмасфера.



*Бібліятэка ў святочным убранні.*

Напрыклад, 12 студзеня супрацоўнікі прапаноўвалі чытачам этнаграфічны экскурс «Тэрыторыя зімовых свят», а на працягу дня наведвальнікаў чакаў святочны сюрпрыз —«Калядныя цуды».

На свята «Шчадрэц» павінна быць шмат страў, таму супрацоўнікі аддзела абслугоўвання падрыхтавалі для наведвальнікаў book-пачастунак — кніжную выстаўку «Шчодры стол». Самых дапытлівых «частавалі» займальнымі часопісамі і цікавымі кнігамі. Шчодры кніжны стол літаральна «ламіўся» ад падборак на любы густ, а кожны тэматычны стос складаўся з 12 кніг — па колькасці месяцаў. Спадзяёмся, што традыцыя «Кніжных Каляд» будзе працягнута і надалей.

**Валянціна ЦЭГАЛКА,
загадчык аддзела абслугоўвання і інфармацыі чытачоў Слуцкай раённай цэнтральнай бібліятэкі,
фота аўтара**

# Будзь здаровы!

Прафілактыка і прапаганда здаровага ладу жыцця — адзін з прыярытэтных кірункаў у працы Гатаўскай сельскай бібліятэкі-клуба Мінскага раёна.

Мы мяркуем правесці шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на фарміраванне ў дзяцей і падлеткаў цікавасці да здаровага ладу жыцця. Актывізавалі прапаганду адпаведнай літаратуры, у тым ліку і спартыўнай. Важна, каб падлеткі зразумелі, што ў наш час ёсць шмат цікавых і займальных заняткаў.

Перш за ўсё мы афармілі «Куток навін пра здаровы лад жыцця», дзе размяшчаем інфармацыю пра знамянальныя падзеі і даты, звязаныя з аховай здароўя і спортам, апошнія навінкі перыёдыкі, аб'явы пра мерапрыемствы, акцыі ды інш. Плануем афарміць альбом дзіцячых малюнкаў. Прыцягнуць увагу чытачоў дапаможа і акцыя «Лепшая кніга па здаровым ладзе жыцця». Для вучняў 10 — 11 класаў правядзём дыскусійную гадзіну «У чым сэнс жыцця?» паводле апавядання Л. Петрушэўскай «Глюк». Ужо сёння можна пазнаёміцца з кніжна-ілюстрацыйнай выстаўкай «Тvае арыенціры — прыгажосць і здароўе».

**Іна УРБАН,
загадчык Гатаўскай СБК,
фота аўтара**



*Чарговае мерапрыемства, прысвечанае здароваму ладу жыцця.*




*Загадчык аддзела інфармацыі Смаргонскай цэнтральнай раённай бібліятэкі Зоя Дурэйка і бібліятэкар Наталля Лаўрынкова — пастаянныя вядучыя імпрэз.*

# Там, дзе суперчытачы

Неяк на форуме аднаго з інтэрнэт-парталаў распачалася спрэчка пра памяншэнне цікавасці да сучаснай бібліятэкі. У якасці ноў-хаў прыводзілася прапанова маскоўскага кнігавыдаўца Барыса Купрыянава па ператварэнні бібліятэк у месцы для сустрэч, камунікацый, правядзення рознага кшталту мерапрыемстваў.

Не без гонару зазначыла для сябе: у Смаргоні такая практыка існавала, здаецца, заўжды. Нават у крызісныя часы супрацоўнікі бібліятэк захоўвалі вернасць прафесіі і не проста заставаліся «вартаўнікамі» кнігі, але і актыўнымі яе прапагандыстамі, асветнікамі.

Яны выхоўвалі і выхоўваюць свайго чытача з маленства, знаходзяць падыход да аматараў чытання розных пакаленняў і розных сацыяльных колаў. Ці не таму літаральна ў кожнай, нават самай маленькай, вясковай бібліятэцы існуе свая лучнасць кнігалюбаў — клуб ці аматарскае аб'яднанне па інтарэсах. Масавая работа праводзіцца з улікам значных падзей у жыцці рэгіёна і краіны, а таксама з улікам пажаданняў самых блізкіх і актыўных сяброў кніжніц.

У Смаргонскім раёне працуе 21 бібліятэчная ўстанова, з якіх 15 — у сельскай мясцовасці. Да жыхароў маланаселеных і аддаленых вёсак выязджае бібліёбус — спецыяльная перасоўная бібліятэка-аўтобус, якая чатыры разы на тыдзень кіруецца ў адзін з 40 аддаленых пунктаў.

Папулярнай формай работы сталі мерапрыемствы пад адкрытым небам, візіты на прадпрыемствы і ў навучальныя ўстановы, сустрэчы з літаратарамі, мастакамі, творчымі асобамі розных прафесій. Частыя госці на Смаргоншчыне сталічныя літаратары. Вось і летась у вёсцы Войстам адбылася сустрэча з Генадзем Пашковым і групай мінскіх творцаў. «Там, дзе Беларусь мая, там і я» — пад такой назвай прайшла ў райцэнтры цікавая імпрэза з Міхасём Пазняковым. Знакаміты скульптар Уладзімір Церабун стаў героем вечарыны «Лёс, падараваны мастацтву».

Шмат гадоў пры цэнтральнай бібліятэцы працуе літаратурна-музычная гасцёўня «Сустрэчы», на пасяджэннях якой пабывалі мастакі, літаратары, краязнаўцы. Дарэчы, працуе і 26 аматарскіх аб'яднанняў і клубаў па інтарэсах. Іх дзейнасць накіравана на захаванне і прапаганду культурна-гістарычнай спадчыны рэгіёна, вывучэнне народных традыцый, помнікаў прыроды.

Вялікая ўвага надаецца працы з юнымі чытачамі. У гарадской бібліятэцы № 2 праходзяць так званыя інфармацыйныя кірмашы з карыснымі ідэямі і кансультацыямі спецыялістаў. Пры многіх установах плённа працуюць самадзейныя гурткі. Напрыклад, музей вясковага побыту ў Залескай бібліятэцы, дзякуючы якому ўтварыўся цэнтр этнакультурнай асветы. У Вішнеўскай на працягу многіх гадоў юныя чытачы з задавальненнем ладзяць спектаклі тэатра лялек. А ў Кушлянскай, Сасноўскай, Крэўскай кніжніцах створаны этнакультурныя пакоі і куткі.

Каб задаволіць запыты карыстальнікаў, у ЦБС дзейнічае пяць публічных цэнтраў прававой інфармацыі, сем мультымедыйных і два інфармацыйна-адукацыйныя. Цэнтральная бібліятэка абслугоўвае наведвальнікаў у аўтаматызаваным рэжыме і прадастаўляе магчымасць карыстацца інтэрнэтам.

Пра ўсе маючыя адбыцца і прайшоўшыя мерапрыемствы, новыя паступленні літаратуры, перыядычныя выданні аператыўна паведамляе асабісты сайт цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы раёна. Плённая работа вядзецца па папулярызацыі фондаў прадзіцца дзякуючы выстаўкам, тэматычным сустрэчам з чытачамі, у тым ліку і з патэнцыяльнымі, якія папаўняюць спіс карыстальнікаў.

Гэтыя высілкі не былі марнымі: па выніках работы ў 2012 годзе Смаргонская ЦБС стала пераможцай абласнога агляду-конкурсу.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ,**
**фота аўтара**

# Адзін дзень вясковай кніжніцы

Ад майго дома да бібліятэкі прыкладна два кіламетры. Кожны дзень я праходжу іх з задавальненнем. Раніцай — ад таго, што іду на любімую працу, увечары — ад таго, што вяртаюся дадому, дзе мяне чакаюць дарагія людзі.

Ужо 16 год я працую бібліятэкарам сельскай бібліятэкі вёскі Вялікая Ухалода, што ў Барысаўскім раёне. Яна месціцца ў будынку школы, дзе, акрамя таго, яшчэ і паштовае аддзяленне ды ашчадная каса банка. Вось такое цікавае суседства. Аднак гэта нам не перашкаджае, хутчэй наадварот, — аб'ядноўвае. Наша бібліятэка карыстаецца папулярнасцю ў жыхароў вёскі, штодня мы абслугоўваем ад 20 да 60 дарослых і дзяцей, выдаем ад 100 да 300 кніг, часопісаў і газет.

Памяшканне ў бібліятэцы прасторнае, сонечнае, упрыгожанае кветкамі. Прыкладна ў 8.10, за 20 хвілін да адкрыцця, першыя наведвальнікі нецярпліва зазіраюць у дзверы. Гэта нашы галоўныя чытачы — першакласнікі! Яны штодзень разы па тры звяртаюцца па дзіцячыя часопісы, а таксама з цікавасцю гартаюць новыя кнігі сучасных беларускіх пісьменнікаў.

Мая калега Алена Бабіцкая ў 2011 годзе скончыла БДПУ імя Максіма Танка, атрымала прафесію педагога-псіхолага і прыйшла працаваць у нашу бібліятэку. Ганарыцца гэтым і радуецца, што можа рэалізаваць тут свае прафесійныя здольнасці. А я шчаслівая ад таго, што ў нашым невялікім калектыве з'явіўся спецыяліст, які ўмее прафесійна працаваць на камп'ютары, бо сама гэтаму яшчэ толькі вучуся.

Традыцыйна зранку праглядаю прэсу. Учора, напрыклад, прыйшоў свежы нумар прафесійнага часопіса «Бібліятэка прапануе». Трэба пазнаёміцца з артыкулам, прысвечаным сучаснай дзіцячай літаратуры беларускіх аўтараў. Справа ў тым, што мы праводзім своеасаблівыя кастынгі такой літаратуры з дапамогай дзяцей і іх бацькоў. Увогуле, працы шмат: трэба вывучыць чытацкія фармуляры, зрабіць падборку літаратуры, аформіць выстаўку і, нарэшце, заняцца самаадукацыяй — пацікавіцца досведам працы мультымедыйных цэнтраў у публічных бібліятэках, пазнаёміцца з сайтам нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі. Летась мы пачалі рухацца ў гэтых напрамках і думаем, што досвед калег будзе карысны.

У 9.45, калі гучыць званок з урока, бібліятэка запаўняецца школьнікамі — ад малодшых да старшакласнікаў. Мы стараемся выдаць літаратуру як мага хутчэй, бо праз пяць хвілін ім трэба вяртацца за парты. Тым часам у бібліятэку заходзяць дарослыя чытачы, бачаць дзіцячы «аншлаг» і садзяцца, усміхаючыся, на крэслы пачакаць сваёй чаргі.

У нядаўна адчыненым мультымедыйным інфармацыйна-адукацыйным цэнтры таксама кіпіць работа: да Алены Бабіцкай звяртаюцца студэнты-завочнікі, каб адсканіраваць дакументы ці адправіць іх па электроннай пошце.

Падзеі, якія адбываюцца ў кніжніцы, перыядычна фіксуюцца ў нашым блогу «Сельская бібліятэка вёскі Вялікая Ухалода». Гэты кірунак дзейнасці новы, але перспектыўны і, галоўнае, карысны для чытачоў. Ва ўстанове дзейнічае яшчэ адзін віртуальны праект — «Інсайт бібліятэчны», прысвечаны сучасным беларускім дзіцячым пісьменнікам.

У 12.00 пачынае працу школьная група падоўжанага дня. Сёння мы запрасілі вучняў на кіналекторый па казачных героях. Мы вырашылі паказаць дзецям мультфільм паводле казкі Сяргея Аксакава «Пунсовая кветачка», а потым правесці віктарыну. Маленькія чытачы зручна размясціліся за сталамі з дзіцячымі часопісамі і кніжкамі. Цішыня. Кінасеанс пачынаецца.

Пасля абеду нас наведваюць педагогі. Адна з настаўніц цікавіцца навінкамі па гісторыі Беларусі, праглядае мясцовую газету «Гоман Барысаўшчыны», а яе калега выбірае дэтэктыў...

Выпускнікоў звычайна цікавіць кніжная выстаўка «Абітурыенту і не толькі...», дзе можна знайсці карысныя кнігі — «Даведнік абітурыента» і «1000 прафесій». Падумалася, добра было б правесці ў бібліятэцы «круглы стол» па гэтай тэме, напэўна, самай актуальнай сярод моладзі.

Каля 17.00, калі наш працоўны дзень завяршаецца, чытачоў становіцца толькі больш. Так амаль заўсёды! Пасля апошніх наведвальнікаў мы расстаўляем літаратуру па паліцах, выключаем камп'ютар. Заўтра будзе новы дзень — іншыя кнігі і чытачы.

**Надзея МАЦЮШОНАК**

*Імпрэзы*

## «Вандроўніца» ў гасцях



*Лёля Багдановіч.*

Нядаўна Фаніпальскую гарадскую бібліятэку наведала Лёля Багдановіч, член Саюза пісьменнікаў Беларусі з горада Барысава. Тут прайшла прэзентацыя яе першага зборніка вершаў «Зорны кошык». Падчас такіх сустрэч выпадае магчымасць пагутарыць з аўтарам, з першых вуснаў пачуць пра тое, як нараджаюцца паэтычныя творы.

— Вершы пачала пісаць у 1999-м, — распавяла паэтэса. — Першыя радкі прысвяціла матулі. Гэта ўвогуле адна з самых любімых маіх тэм. Магчыма, таму, што адносіны, якія склаліся паміж намі, былі незвычайна цёплымі і даверлівымі.

Калі Лёля Уладзіміраўна стала чытаць вершы, прысвечаныя маці, то падалося, што кожны ў гэтыя імгненні прыгадаў родны дом, блізкіх людзей… Па дарозе ў Фаніпаль паэтэса напісала верш «Вандроўніца», які ўпершыню прагучаў у фаніпальскай бібліятэцы.

Вершы творцы адкрытыя, працятыя святлом кахання і дабра, верай у лепшыя чалавечыя якасці. У кожным радку гучыць свая мелодыя. Невыпадкова некаторыя яе творы сталі рамансамі. Самыя любімыя песні Лёля Уладзіміраўна падарыла слухачам.

**Наталля БЛІЗНЮКОВА,**
**загадчык Фаніпальскай гарадской бібліятэкі,**
**фота аўтара**

# Сведкі часу

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстаўка «Сведкі часу. Партрэт у рускім жывапісе і графіцы XVIII — XX стагоддзяў» са збору музея. Экспазіцыя, на якой прадстаўлена 87 твораў, арганізавана ў межах праекта «Нашы калекцыі».

Не кожная выява чалавека — партрэт. Перадаючы абрысы, жэсты, мастак можа і не імкнуцца да захавання сапраўднага вобраза. Працуючы над творам, ён нярэдка вырашае іншую задачу паказаць стан душы, настрой, выявіць тыповыя, а не індывідуальныя рысы, зрабіць асновай не чалавека, а яго дзеянне.

Асабліва востра пытанне партрэтнага падабенства стала перад рускім мастацтвам з надыходам Новага часу (пач. XVIII ст.), калі рэформы Пятра І змянілі ролю чалавека ў грамадстве. У другой палове XVIII стагоддзя рускае мастацтва выходзіць на еўрапейскую арэну. З'яўляецца шэраг выдатных партрэтыстаў, сярод якіх асаблівае месца займае Фёдар Рокатаў з яго ўменнем перадаць не толькі партрэтныя рысы, але і атмасферу, паказаць вобраз у кантэксце навакольнага свету — фігуры нібы раствараюцца ў прасторы («Партрэт В. У. Шарамецьева», 1770-я).

Гісторыя развіцця рускага мастацтва першай паловы XIX стагоддзя звязана, у першую чаргу, з заснаваннем у Расіі Акадэміі мастацтваў (1757), якая пачала прытрымлівацца пастулатаў класіцызму з яго строгасцю, разуменнем грамадзянскага абавязку: «Партрэт імператара Аляксандра І» (1800-я), «Партрэт графа Р. Р. Кушалёва» (1800-я), «Партрэт П. П. Канаўніцына» (1823 — 1825) работы А. Ф. Лагрэне (сына). Але пры гэтым развіваліся таксама і іншыя стылі: рамантызм з яго верай у чалавечы геній — А. А. Арлоўскі «Партрэт мужчыны» (1807), сентыменталізм з трапяткім стаўленнем да чалавека незалежна ад сацыяльнага статусу — невядомы мастак «Партрэт Сафіі Бухмеер (?)» (другая палова 1810-х), бідэрмеер (яшчэ недастаткова вывучаная з'ява рускай мастацкай культуры, звязаная са светам паўсядзённага жыцця сціплага абывацеля — партрэты 1830 — 1840-х).

Найбольш прыкметнай, запамінальнай фігурай стаў Карл Брулоў. Менавіта «Вялікі Карл» апынуўся родапачынальнікам акадэмізму ў рускім мастацтве з высокім прафесійным узроўнем яго прадстаўнікоў і некаторай аддаленасцю ад жыццёвых рэалій. У шэрагу істотных дасягненняў: «Партрэт А. І. Тон» (1844 — 1845) пэндзля А. В. Тыранава, «Партрэт Ф. П. Талстога» (каля 1850) і «Партрэт найсвятлейшай княгіні А. А. Грузінскай» (1856) С. К. Заранкі, «Партрэт А. І. Лорыс-Мелікава з жонкай і італьянскім хлопчыкам» (1856) П. М. Арлова, «Партрэт К. А. Тона» (канец 1860 — да 1874) невядомага мастака.

Сярод прадстаўленых на выстаўцы карцін, створаных мастакамі-акадэмістамі, варта асобна сказаць пра палатно Ф. А. Броннікава «Табе Бог падасць...» (1859). Нагадаем, што ў сваім праграмным творы «Апошні дзень Пампеі» (1833) К. П. Брулоў адлюстраваў самога сябе (на другім плане злева). Аналагічны прыём мы сустракаем і ў Броннікава. Яго работа, як здаецца спачатку, да партрэта ніякага дачынення не мае. Аднак, прыгледзеўшыся, злева ў глыбіні мы ўбачым чалавека, які сядзіць за столікам і ўважліва сочыць за тым, што адбываецца. Гэта — сам мастак. Заўважым, што спрабуючы паказаць уласнае стаўленне да сацыяльнай несправядлівасці і перадаць псіхалогію чалавека, жывапісец наблізіўся да рэалізму.

Менавіта рэалізм апынуўся ў авангардзе развіцця рускага мастацтва другой паловы XIX стагоддзя. Адным з найбуйнейшых партрэтыстаў гэтага часу быў Мікалай Крамской, які вельмі дакладна і лаканічна перадаваў псіхалагічны партрэт асобы — «Партрэт А. А. Шчарбатава» (1880). Традыцыі рэалізму знайшлі свой працяг у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя, пераасэнсаваныя пакаленнем маладых жывапісцаў: М. П. Багданавым-Бельскім («Партрэт М. С. Шаравара». 1898), А. В. Марававым («Сябры. Партрэт Любачкі з сабакам». 1908), А. А. Мурашкам («Партрэт Л. М. Бенуа». 1904 — 1910). Для мастацтва мяжы стагоддзяў характэрная датуль нябачаная свабода жывапісу. З'яўляецца шэраг майстроў з



*Заранка С. К. «Партрэт Ф. П. Талстога», каля 1850. Палатно, алей.*

непаўторным почыркам — К. А. Каровін («Партрэт А. Ф. Сафонавай». 1911), З. Я. Серабракова («Партрэт А. І. Залатарэўскага», 1922), В. А. Сяроў («Партрэт А. В. Марозава», 1909), Б. М. Кустодзіеў («Партрэт М. Д. Шастаковіча», 1923). Хутка яны апынуцца ў зусім новым для сябе свеце — у новай краіне, СССР, дзе мастацтва было ў значнай ступені «пераасэнсаванае» дзяржавай. Была ажыццёўлена спроба вярнуцца да зразумелых, даступных вобразаў рэалізму другой паловы мінулага стагоддзя, увогуле пазбавіцца іншых напрамкаў і плыняў, у тым ліку імпрэсіянізму. Аднак засвоены і перапрацаваны рускімі майстрамі досвед мастакоў Францыі трывала ўвайшоў у мастацтва новай Расіі. Яскравы прыклад — карціна аднаго з вучняў К. А. Каровіна, будучага прэзідэнта Акадэміі мастацтваў СССР Аляксандра Герасімава «Сямейны партрэт» (1934), дзе праявіла сябе новае разуменне колеру і формы, чужое для майстроў другой паловы XIX стагоддзя. Вяртанне да старых метадаў пабудовы малюнка, нацэленае на ўслаўленне сацыялістычных рэалій, не атрымалася. Нават у такім «кананічным» па савецкіх мерках вобразе, як «Партрэт А. Р. Стаханава» (1937) пэндзля Г. Г. Ражскага, суровыя і геаічныя будні перададзены мовай жывапісу, які зусім нядаўна перажываў эру выключнай свабоды.

Што да пытання партрэтнага жанру, варта падкрэсліць значэнне аўтарскай пазіцыі. Нярэдка аднафігурныя кампазіцыі з'яўляюцца прыкладамі



*Макоўскі У. Я. «Баярыня», 1880. Палатно, алей.*

жанравага жывапісу — В. А. Трапінін «Старая, якая абразае сабе пазногці» (1840), І. Ф. Хруцкі «Бабулька за працай» (сярэдзіна 1840-х), І. М. Крамской «На цязе» (1871). І ў дадзеным выпадку не мае прынцыповага значэння, ці вядомы нам чалавек, які паслужыў мастаку мадэллю. Так, бліскучы рускі партрэтыст Ілья Рэпін сваю «Украінку каля плятня» (1876) піша з дачкі іншага вядомага мастака Мікалая Ге, але падкрэслівае не індывідуальнае, а тыповае, найбольш характэрнае, асаблівую ўвагу надаючы дэталям і абстаноўцы. Часам падобная тыпізацыя мае гістарычную афарбоўку — У. Я. Макоўскі «Баярыня» (1880), іншы раз з'яўляецца адлюстраваннем сучаснасці — Ф. А. Малявін «Сялянка ў чырвонай сукенцы» (1900-я), А. Я. Архіпаў «Дзяўчына, якая ўсміхаецца» (1920-я). Разам з тым ёсць прыклады, калі абагульненне дасягае асабліва значных маштабаў. У невялікай карціне Ільі Машкова «Натуршчыца Фрося» (1924) прадстаўлены не нацыянальны ці гістарычны тып, а просты і адначасова не выказаны да канца вобраз жанчыны.

Падчас правядзення выстаўкі «Сведкі часу. Партрэт ў рускім жывапісе і графіцы XVIII — XX стагоддзяў» Нацыянальны мастацкі музей Беларусі праводзіць конкурс дзвайнікоў партрэтаў. Кожны можа стаць удзельнікам, галоўнае, каб знайшлося знешняе з героямі экспазіцыі. Экспертны савет, які ўзначаліць дырэктар музея, абярэ лепшую працу і ўручыць прызы. Вынікі аб'явяць у перадапошні дзень працы выстаўкі — 2 сакавіка.

**Таццяна ШЫМУК**

# Прафесар графікі

Народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч адзначыў 75-годдзе. З нагоды дня нараджэння майстра ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адбылося ўрачыстае мерапрыемства: гашэнне канверта з арыгінальнай маркай «Жывапіс. В. П. Шаранговіч», што ўводзяцца ў абарачэнне Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі Беларусі. Элементы маркі і канверта выкананы з выкарыстаннем такіх твораў мастака, як «Аўтапартрэт» (2002), «Восеньскае поле» (2003) і «Навальніца прайшла» (2005).

**Таццяна ШЫМУК**

Васіль Шаранговіч прыйшоў у беларускае мастацтва ў канцы 1960-х гадоў, падчас росквіту кніжнай графікі ў СССР, калі былі запатрабаваны сур'ёзныя, шматфігурныя, высокапрафесійныя ілюстрацыі да класічных твораў. У яго творчай скарбонцы —кніжная графіка для дзяцей, эпічныя творы, акварэльныя пейзажы і гістарычныя партрэты. Працуе мастак і ў станковай графіцы, дзе шырока выкарыстоўвае нацыянальныя мастацкія матывы, сімволіку і метафару. Творца праілюстраваў больш як 70 выданняў, многія з якіх адзначаны медалямі і дыпломамі розных конкурсаў: «Новая зямля» Якуба Коласа, «Паэма» і «Адвечная песня» Янкі Купалы, «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча і г. д. Ілюстраваў Васіль Пятровіч творы Рыгора Барадуліна, Івана Навуменкі, Аляксея Талстога, Уладзіміра Маякоўскага ды іншых паэтаў і празаікаў. Сярод станковых работ найбольш вядомыя серыі «Блакада. 1943», «Край Нарачанскі», «Дзе крыўда спрадвечная спела». Асаблівае значэнне ў творчасці В. Шаранговіч надае тэме вайны. Дзеючымі асобамі серыі літаграфій «Памяць вогненных вёсак», над якой ён працаваў з 1979 па 1985 год, з'яўляюцца старыя, дзеці і жанчыны, на чыіх плячах апынуўся цяжар жыцця на акупіраванай зямлі. У 2003 годзе мастак пачаў працаваць над працягам папярэдняга цыкла пад назвай «Блакадны рэквіем».

Васіль Пятровіч не толькі вядомы мастак, але і выдатны педагог. Трыццаць гадоў жыцця ён аддаў выхаванню творчай моладзі. Працаваў у Беларускай акадэміі мастацтваў выкладчыкам, загадчыкам кафедры графікі, прарэктарам і рэктарам. За гэты час была створана выдатная школа беларускай графікі, вядомая цяпер далёка за межамі Беларусі. Многія вучні В. Шаранговіча — гонар нацыянальнага мастацтва.

Палотны Народнага мастака Беларусі экспануюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, захоўваюцца ў Міністэрстве культуры Расіі, сховах Беларускага саюза мастакоў і Саюза мастакоў Расіі, мемарыяльным музейкомплексе «Хатынь», музеях Янкі Купалы і Якуба Коласа. Выстаўкі твораў аўтара праходзілі ў Італіі, Грэцыі, Францыі, ЗША, Кітаі, Алжыры, Германіі, Польшчы, але ні адну са сваіх работ майстар не прадаў за мяжу.

На 2014 год запланаваны яшчэ дзве персанальныя выстаўкі В. Шаранговіча. У Нацыянальным мастацкім музеі ў пачатку восені, дзе будуць прадстаўлены акварэльныя пейзажы і нацюрморты, зробленыя на малой радзіме мастака — Мядзельшчыне. Другая адбудзецца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2538.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 23.01.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 24.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
9770024468001 14004